Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**

№ 1 (4) Студзень 1926

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК — 1926



**Портрэт СКАРЫНЫ**

З кнігі „Ісуса сына Сірахава“ 1517 г.



**Назар Бываеўскі**

# Вялікае сьвята беларускае культуры

*(Да 400-лецьця друку на Беларусі)*

30 сьнежня 1925 году БССР адсьвяткавала чатырохсотую гадавіну выйсьця ў сьвет першае др каванае кнігі на Беларусі.

У 1525 годзе вышла з друк першая на Беларусі кніга „Апостал“, выдадзеная ў Вільні доктарам Францыскам Скарынай.

Такім чынам, друк на Беларусі пачаўся праз 80 год пасьля вынаходу спосабу друкаваньня кніжок у Нямеччыне Ёганам Гутэнбэргам.

Зразумела, што ў XV і XVI сталецьцях друк павінен быў абслугоўваць у першую чаргу патр бы царквы, і Ёган Гутэнбэрг друкуе біблію, друкуе папскія загады ды адозвы і блянкі індульгенцый. Але гэта самае друкаваньне „сьвятых“ кніжок было першапрычынай таго, што ў масах, побач з даступнасьцю „сьвятой“ кнігі, пачало пашырацца рэлігійнае вольнадумства, пачалі ўтварацца „гэрасі“ і пачаў разьвівацца проціцаркоўны рух, які перашоў у рэформацыю XVI сталецьця.

Усьлед за Нямеччынай друк пранікае ў Італію (1465 г.), ува Францыю (1470 г.), у Польшчу, дзе ў 1474 г. пачалі друкавацца першыя кніжкі, спачатку яшчэ на лацінскай мове.

У 1475 г. распачаўся друк у Чэхіі, а ў 1483 г. ў Вэнэцыі вышла ў сьвет першая славянская кніга глаголіцай.

У 1491 г. ў Кракаве вышлі з друку першыя кніжкі, набраныя кірыліцай; у 1493-4 г. г. распачынаецца друк у Чорнагорыі.

У пачатку XV сталецьц экономічнае разьвіцьцё Вялікага Княства Літоўскага, як тады звалі Беларусь, выклікала патрэбу ў друкава ай кнізе і тут.

Францыск Скарына, які здаволіў гэтую патрэбу, быў сынам полацкага ган ляра сярэдняй заможнасьці—Лукаша Скарыны—і, такім чынам, можа лічыцца за прадстаўніка маладой тады беларускай гарадзкой гандлёвай буржуазіі.

Як даводзіць М. Шчакаціхін (гл. „Полымя“ 1925 г.,№ 5, ст. 148—151), Францыск Скарына нарадзіўся ў Полацку 6 сакавіка 1486 г. Бацька яго вёў гандлёвыя зносіны з Рыгаю і з найбуйнейшым гандлёвым асяродкам Беларусі—Вільняю. Даўшы сыну звычайную, магчымую ў той

час у Полацку, асьвету, бацька, відаць, заўважыў здольнасьць сына да кніжнае навукі. Можна думаць, што ў бытнасьць бацькі з сынам у Вільні было разьвязана пытаньне аб далейшай асьвеце маладога Францыска. Пры чыёйсьці дапамозе малады Скарына ў 1504 годзе 18-цігадовым хлопцам трапляе ў Кракаў і робіцца студэнтам філёзофскага факультэту тамтэйшага унівэрсытэту. Праз 2 гады (у 1506 г.) ён дастае годнасьць бакаляўра.

Варта, між іншым, адзначыць, што ў той час сярод профэсароў Кракаўскага Унівэрсытэту быў вядомы настаўнік Яна Гаштольда—Ян Глогаўскі (з Глогавы), які ўпарта працаваў над перакладам біблії на тагочасную беларускую (як тады казалі: „рускую“) мову. Дзейнасьць гэтага профэсара магла ўжо тады зрабіць уплыў на Скарыну, надаўшы яму думку аб пільнай патрэбе зрабіць кніжку даступнай для роднага „посполитого люду“.

Як відаць з дакумантаў, апублікаваных проф. Шляпкіным, у лістападзе 1512 г. Ф. Скарына прыбывае ў Італію ў горад Падую, які славіўся мэдычным факультэтам свайго унівэрсытэту. Малады Скарына, маючы ўжо ступень „eximiarum artium doctor“ зьявіўся да віцэ-прыора факультэту доктара мэдыцыны Тадэўша Мусаты, які 5 лістапада ў царкве сьв. Урбана на пасяджэньні факультэту далажыў аб просьбе Скарыны дапусьціць яго да экзамену на ступень доктара мэдыцыны. Колегія згадзілася здаволіць просьбу маладога вучонага і 6 і 9 лістапада ў прысутнасьці спачатку 14, а потым 24 экзаменатараў Ф. Скарына з посьпехам вытрымаў экзамены і быў аднагалосна прызнаны вартым гэтае вучонае годнасьці.

Адносна далейшых крокаў Скарыны няма пэўных гістарычных даных, калі ня лічыць яшчэ неправераных вестак аб тым, што Скарына быў госьцем М. Лютэра і Мэлянхтона ў часы пачатае імі барацьбы з каталіцкаю царквою.

У 1517 г. мы застаем Ф. Скарыну ў Празе Чэскай, дзе ён выдаў 6 жніўня ст. ст. свой „Псалтыр“, першую кніжку на беларускай мове. У 1517—19 г. г. Скарына выдае адну за аднэй 23 кнігі біблії, выклаўшы іх „вырозумення ради простых людей“ беларускаю моваю, моваю „прироженою“.

У выданьні гэтых кніжэк была зацікаўлена ў першую чаргу беларуская гарадзкая буржуазія, якая ў асобе віленскіх мяшчан—Багдана Онькі, Якуба Бабіча і іншых — забясьпечыла матар'яльна працу Скарыны.

Зьмены ўмоў друку ў Празе, дзе абвострылася рэлігійная барацьба і паднімала галаву каталіцкая рэакцыя, а з другога боку падтрыманьне віленскага мяшчанства дазволілі Ф. Скарыне перанесьці сваю друкарскую дзейнасьць на бацькаўшчыну.

Перавёзшы ў Вільню ўсе друкарскія тэхнічныя прылады, ён заклаў там у доме бурмістра Якуба Бабіча першую на Беларусі друкарню, з якое ў 1525 годзе і выпусьціў перш „Апостала“, а потым „Малую Падарожную Кніжыцу“.

Пазьнейшых выданьняў Скарыны мы ня ведаем.

У 1530 годзе ён шукае сабе нейкае дапамогі ад прускага гэрцога Альбрэхта, які, прытуліўшы Ф. Скарыну ў сваёй гасподзе—Кёнігсбэргу, піша аб ім хвалебны і абаронны ліст да вял. князя літоўскага і віленскага магістрату, характарызуючы Скарыну як вядомага і выдатнага вучонага.

У 1535 г., як відаць з архіўных дакумантаў, першы беларускі друкар зноў жыве ў Вільні, але далей аб яго жыцьці і сьмерці гісторыя нам не дае пакуль што ніякіх даных.

З тэхнічна-друкарскага буку вы..аньні Ф. Скарыны, як праскія, гэтак і віленскія, прызнаюцца і прызнаваліся ў свае часы за найлепшыя сярод першых славянскіх выданьняў (не выключаючы і вэнэцыйскіх) і могуць вытрымаць параўнаньне з лепшымі тагочаснымі нямецкімі выданьнямі. Чытэльнасьць і дакладнасьць уласна компанаванага шрыфту, які мае ў сабе ўжо элемэнты набліжэньня да фігур і пропорцый тагочаснага лацінскага шрыфту (т. зв. антыквы) выгоднасьць памераў і высокамастацкая тэхніка аздобы выданьняў вялікамі літарамі, застаўкамі, канцоўкамі і, нарэшце, дрэварытамі, гравюрамі на дрэве—вось тыя вартасьці скарынінскіх выданьняў якія зрабілі іх на цэлых 150 год недасяжным узорам далейшых славянскіх выданьняў на ўсім усходзе Эўропы. Праскім выданьням Скарыны, якія, носячы на сабе ўплывы аўгсбурскіх і нюрэнбэргскіх нямецкіх выданьняў, разам з тым, мала ў чым стаяць ад іх ніжэй,—насьледуюць нават другія нямецкія, іменна тюбінгенскія выданьні.

Другой найважнейшай вартасьцю скарынінскіх выданьняў зьяўляецца тое, што яны дадзены на тагочаснай беларускай народнай мове. У сваіх прадмовах да паасобных выданьняў у Празе Скарына выразна падкрэсьлі ае тыя мэты, служачы якім ён набліжаў кнігу да шырокіх мас. Ён любіў свой народ і таму зазначаў, што друкуе „людем простым посполитым к пожитку“, на іх роднай мове, каб кожны „человек простый и посполитый, чтуча их или слухаючи, можеть поразумети“. Гэтым ён паслужыў на карысьць беларускае культуры, якая мела ў ім свайго выдатнага гуманістага і культурніка. Аднак, калі яго дзейнасьць і паслужыла гэтым мэтам адносна шырокіх гарадзкіх мас, то яна не закранула яшчэ шырэйшых беларускіх сялянскіх мас, бо прыгон і адсутнасьць асьветы рабіла кнігу для іх недасяжнай.

Друкарства, зьявіўшыся на першых часох фактарам, які пераважна адстойваў інтарэсы прогрэсыўнае ў той час гандлёвае буржуазіі, фактарам змаганьня з панаваўшым фэўдальным ладам, фактарам будовы сьвецкага, замест схолястычна-царкоўнага сьветапагляду, з цягам часу стала фактарам панаваньня буржуазіі над новаю прогрэсыўнаю рабочаю клясаю і працоўнымі масамі наагул. Вось чаму ў сваёй барацьбе з панаваньнем капіталу рабочая кляса, пролетарыят павярнуў джгала гэтага магутнага фактару ўплыву на масы, на чалавецтва проці адміраючае буржуазнае клясы. Вольны падпольны друк стаў гэтай збраёй у ру ах пролетарыяту, дапамог яму ўзьняць на належную вышыню політычную самасьвядомасьць рабочае клясы і саюзнага з ёй працоўнага сялянства і, пры замацаваньні ўлады пролетарыяту ў былай царскай Расіі, дапамог распачаць там найвялікшую ў сьвеце справу культурна політычнае асьветы і выхаваньня вольных зараз працоўных мас.






М. Шчакаціхін

# Дрэварыты і орнамэнт у выданьнях Скарыны

Пачатак беларускага друку ў праскіх выданьнях Скарыны 1517 году ўводзіць у наша мастацтва новую, да таго часу яшчэ невядомую ў нашым краі, галіну—а ўласна гравюру і кніжную орнамэнтыку. Пэўная залежнасьць скарынінскіх выданьняў ад тагочасных заходня-эўропэйскіх узораў абумовіла сабой высокую тэхнічную дасканаласьць надворнае іх апрацоўкі, у якой далёка не апошняе месца было адведзена ілюстрацыйным дрэварытам і ксылёграфічным дэкорацыйным аздобам. У гэтым сэнсе выданьні Скарыны зрабілі значны крок наперад у параўнаньні да ранейшых вытвораў славянскага кнігадрукарства, адразу паставіўшы малады беларускі друк на адно з першых месцаў у якасных адносінах.

Тыя нямногія славянскія выданьні (за выключэньнем чэскіх), якія выходзілі ў Кракаве, Вэнэцыі і ў паўднёва-славянскіх краінах у межах 1480—1515 гадоў, звычайна зусім ня мелі паасобных ілюстрацыйных рысункаў, але толькі чыста графічныя аздобы ў нязначнай колькасьці, пабудаваныя на аснове орнамэнтыкі з бізантыцкіх і славянскіх рукапісаў. Сюжэтную гравюру мы знаходзім толькі ў кракаўскім „Осьмогласьніку“ Фэоля 1491 г., але яна беспасрэдна запазычана з нямецкіх біблій XV сталецьця. Такім чынам, праскія выданьні Скарыны 1517—1519 г. зьявіліся наагул першымі з ліку славянскіх выданьняў, дзе, апрача дэкорацыйных заставак і орнамэнтаваных загалоўных літар, зьмешчаны былі таксама і паасобныя ілюстрацыйныя гравюры ў досыць значнай колькасьці, па прыкладу найлепшых тагочасных выданьняў Заходняе Эўропы.

У гэтых адносінах, пэўна, самую істотную ролю адыграла заходня-эўропэйская адукацыя Скарыны, асабістыя густы якога формаваліся на грунце Італіі і Чэхіі, а гэтак сама агульныя ўмовы яго выдавецкай працы, галоўным чынам у першы пэрыод, у Празе, якая мела шчыльную сувязь з буйнейшымі італійскімі і нямецкімі друкарскімі асяродкамі. Да вядомай ступені ў тагочасным заходня-эўропэйскім друку Скарына меў магчымасьць знайсьці некаторыя гатовыя ўзоры адпаведных мастацкі-надрукаваных і аздобленых гравюрамі выданьняў,—асабліва ў г. зв. „Biblia pauperum“ і „Hortuli animae“, моцна пашыраных у канцы XV і пачатку XVI сталецьця, асноўны характар якіх—пераклад ранейшых лацінскіх кніг у „простай“ народнай мове—быў вельмі блізкі да тых практычных мэт, якія Скарына сабе вызначаў у сваёй уласнай выдавецкай дзейнасьці. Аднак, нідзе ў выданьнях Скарыны мы не знаходзім усё-ж беспасрэднага пераймальня гатовых гравюр ці графічных

аздоб. У гэтым сэнсе ў аснове няправільнай зьяўляецца думка Уладзімерава, які паказвае на значны, быццам, уплыў нямецкіх нюрэнбэргскіх і аўгсбургскіх выданьняў, галоўным чынам „Комэнтары“ Міколы Лірана 1481 г. і „Нюрэнбэргскай хронікі“ Шэдэля 1493 г.—на праскія выданьні Скарыны [1]). Праўда, з гэтых выданьняў, як з аўторытэтных крыніц, Скарынай былі ўзяты адзінаццаць тлумачальных рысункаў да скініі і саламонава храма [2]), але гэтыя рысункі, чыста падсобнага характару, зьмешчаныя ў выданьні Скарыны з мэтай выключна даведачнай, ня маюць нічога супольнага з усёй іншай масай гравюр і орнамэнтальных рысункаў, першаўзоры якіх у нямецкім друкарстве вызначыць ужо немагчыма.

Тымчасам гэтая маса і ўтварае галоўную аснову мастацкай аздобы выданьняў Скарыны. Пры гэтым асабліва цікава самае распляванаваньне матар'ялу, досыць нязвычайнае, і ў сутнасьці далёкае ад заходняэўропэйскіх прынцыпаў. Ксылёграфічныя аздобы ў скарынінскіх кнігах складаюцца з загалоўных літар, вялікіх і малых заставак і, нарэшце, з паасобных сюжэтных гравюр. Першыя дзьве катэгорыі аздоб у тыя часы мала яшчэ ўжываліся на Захадзе, і толькі славянскія выданьні карысталіся застаўкамі і орнамэнтаванымі літарамі ў бізантыцкім, як мы ўжо вазначалі, характары. Запазычыўшы гэтую славянскую дэкорацыйную традыцыю, выданьні Скарыны, аднак, канчаткова адмовіліся ад перайманьня бізантыцкага орнамэнту, распрацаваўшы графічныя свае аздобы ў заходня-эўропэйскіх, часткова італійскіх, формах, чаго, аднак, у самай заходня-эўропэйскай кніжнай графіцы ў тыя часы амаль што зусім яшчэ ня было. Паасобныя гравюры ў прынцыпе сваім бліжэй да заходніх выданьняў, асабліва лацінскіх, нямецкіх і чэскіх біблій, дзе часта зьмяшчаліся гравіраваныя ілюстрацыйныя рысункі. Але і тут мы бачым значную розьніцу: папершае, самыя разьмеры гравюр у Скарыны значна большыя; у той час, як, напрыклад, у вэнэцыйскай лацінскай біблії 1498 г., чэскім „Новым законе“ 1498 г. і чэскай біблії, надрукаваных вялікімі форматамі, разьмеры гравюр ня больш, як 5-6 сант.,—у біблії Скарыны пры маленькім формаце кожная гравюра мае звычайна 10,5×10,5 сант., а некаторыя дасягаюць 10,5×16 сант. Падругое, у той час, як у заходніх выданьнях гравюры зьмяшчаюцца ў тэксьце, у выданьнях Скарыны яны выносяцца на загалоўныя аркушы паасобных біблійных кніжок, як аснова орнамэнтальнай іх композыцыі. Патрэцяе, нарэшце, у композыцыйных адносінах яны ў большасьці сваёй самастойны, амаль заўсёды ў композыцыю ўведзены г. зв. „гэрб“ Скарыны (спалучэньне сонца і месяца), і толькі некаторыя з іх далёка нагадваюць адпаведныя рысункі з лацінскіх і чэскіх біблій, прычым, аднак, нідзе не наглядаецца поўнае тоесамасьці. Усё гэта, бясспрэчна, паказвае на асобную працу знойдзеных, пэўна, Скарынай у Празе гравёраў-дрэварытнікаў, якая рабілася па спэцыяльным заказе, выключна для яго выданьняў.

Агульная колькасьць гравюр, зьмешчаных у кнігах Скарыны (праскіх і віленскіх), апрача заставак і фігурных загалоўных літар, раўняецца разам з вышэйпамянёнымі тлумачальнымі рысункамі і паўтарэньнямі—сарака пяці. З гэтага ліку большасьць—39—знаходзіцца ў „Біблії“ 1517—1519 г., тры гравюры зьмешчаны ў праскай „Псалтыры“ 1517 г., і рэшта—у віленскай „Малай Падарожнай Кніжыцы“; віленскі „Апостал“

[1]) *П. Владимиров.* Доктор Франциск Скорина. 1888. Стар. 76, 81 і інш.

[2]) У кнігах: 3-й „Царстваў“ 1518 г. і „Ісход“ 1519 г. ў сярэдзіне тэксту.

1525 г. зусім ня мае гравюр, але толькі орнамэнтальныя аздобы.—Як у сваім характары, гэтак і па тэхнічных і стылістычных адзнаках, усе гэтыя гравюры далёка не аднальковы, што ў свой час было заўважана Стасавым, які дапушчае, што гравюры ў выданьнях Скарыны былі зроблены рознымі майстрамі, а ўласна адным нямецкім і некалькімі славянскімі [1]). Думка Стасава знаходзіць сабе пацьверджаньне і ў пазьнейшых дасьледваньнях; ува ўсякім выпадку, сярод гравюр з выданьняў Скарыны бясспрэчна магчыма выдзеліць чатыры паасобныя групы, кожная з якіх, характарызуючыся сваімі ўласнымі стылістычнымі і тэхнічнымі рысамі, лягчэй за ўсё можа быць вытлумачана, як праца або паасобнага гравёра, або—калі розных гравёраў—дык аднэй і тэй-жа больш-менш вызначанай гравюрнай школы.

Найменшую групу складаюць дрэварыты, якія выразна могуць быць вызначаны, як праца нямецкая; да яе належаць усяго толькі тры гравюры: „Суд Саламона“ з кнігі „Прыповесьці“ 1517 г., „Памазаньне Давыда“ з 1-й кнігі „Царстваў“ 1518 г. і „Пабудова ерузалімскага храму“ з 3-й кнігі „Царстваў“ 1518 г. Ня гледзячы на тэхнічную сваю дасканаласьць, усе яны неяк выпадковы і з іншымі гравюрамі мала зьвязаны. Адсутнасьць звычайных „гэрбаў“ Скарыны, якія амаль усюды сустракаюцца ў дрэварытах іншых груп, паказвае, магчыма, што першапачаткова гравюры гэтыя спэцыяльна для выданьняў Скарыны і ня былі прызначаны. Наагул-жа, абмежаванасьць гравюр гэтага тыпу сьведчыць аб пэўнай абмежаванасьці беспасрэдна нямецкага ўплыву.

Другая група таксама нязначная; яна ўключае ў сябе дзьве гравюры з праскае „Псалтыры“ 1517 г., а таксама загалоўны аркуш з фігурамі да „Акафістаў“ і „Зьвяставаньне“ з віленскай „Малай Падарожнай Кніжыцы“, і характарызуецца добра задуманымі і выразнымі кампазыцыямі пры пэўнай слабасьці гравёрнага выкананьня. Некаторыя дэталі нагадваюць тут нямецкія ўзоры, але ўжо пераапрацаваныя на славянскім грунце. Пры гэтым той факт, што, на падставе стылістычных даных, да групы адыходзяць дзьве самыя першыя і дзьве апошнія з ліку скарынінскіх гравюр,—надзвычайна ўскладняе пытаньне аб яе пахаджэньні і дазваляе будаваць самыя розныя гіпотэзы, да дапушчэньня аб беспасрэднай працы самога Скарыны ўключна.

Ад гэтых гравюр выразна адмяжоўваецца вялікая група дрэварытаў з праскае „Бібліі“ 1517—1519 г., якая вызначаецца поўным стылістычным адзінствам, з характэрным буйным, выразным рысункам і высокай тэхнічнай дасканаласьцю лінейнай трактоўкі. На чале гэтай групы стаіць вядомы, існуючы ў двох варыянтах, падпісаных монаграмістым М.З. портрэт Францыска Скарыны 1517 г.,—ня раз ужо рэпрадукаваны, на жаль толькі з горшага варыянту. Далей да яе далучаюцца адпаведныя дрэварыты з „Песьні Песень“ 1518 г., кнігі „Ісуса Навіна“ 1518 г., а таксама з кніг „Быція“, „Юдыф“, „Ісход“, „Другога закону“, „Судзей“, „Эстэр“, „Ераміі“ і „Данііла“ 1519 г. Уся гэтая група мае глыбока суцэльны характар, як у стылістычных, так і ў тэхнічных адносінах, выдзяляючыся як бясспрэчна найлепшая сярод усіх дрэварытаў у выданьнях Скарыны. Калі аднесьці яе да якога-небудзь аднаго гравёра, дык аўтарам яе прыдзецца лічыць таго невядомага нам майс-

[1]) *В. Стасов*. Разбор рукописного сочинения Ровинского „Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств“.—Отчет о седьмом присуждении наград гр. Уварова. СПБ. 1864. стр. 30-32.

тра М. З., якім падпісаны портрэт Скарыны. Але гэта мала высьветліць нам яе пахаджэньне, бо зробленыя ў літаратуры спробы расшыфраваць гэтую манаграму ня могуць лічыцца ўдалымі. Тут называліся імёны гравёраў: *Мартына Цазінгэра, Цагэля* і некаторых іншых[1]), але паколькі ўсе яны карысталіся ня зусім аднальковымі і толькі блізкімі манаграмамі, і паколькі вядомыя нам працы іх зусім не падобны да портрэту Скарыны ў стылістычным сэнсе,—пастолькі хутчэй



Пераход праз Іордан. З кнігі „Ісуса Навіна" 1518 г.

у даным выпадку мы маем справу з нейкім новым, яшчэ невядомым нам манаграмістым, які працаваў каля 1517 г. ў Празе і, мабыць, належаў да *чэскай* гравёрнай школы, аб якой, на жаль, у спэцыяльнай літаратуры яшчэ няма дакладных вестак. З нашага пункту погляду, да гэтай-жа школы, а не да аднаго паасобнага майстра, трэба аднесьці і ўсю групу цалком, тлумачачы адзінства стылю і тэхнічных прыёмаў у паасобных гравюрах вынікам аднальковых адносін магчыма і розных гравёраў да нейкага супольнага гравюрнага кірунку, які хаця і набліжаны ў некаторай ступені да нямецкага, але шмат у чым моцна ад

[1]) Гл., напр., *Д. Ровинский*. Русские граверы. М. 1870. стар. 5; таксама яго-ж: Подробный словарь русских гравированных портретов. СПБ. 1888, т: III.

яго і адрозьніваецца, а ўласна: большай увагай да чалавечых фігур за кошт зьнявагі да пэйзажу, меншаю дробнасьцю і дэталізаванасьцю рысунку і, нарэшце, выразна славянскімі тыпамі твараў і вопратак, у чым, магчыма, выявіўся і некаторы беларускі ўплыў,—або праз самога Скарыну, або праз каго-небудзь з яго супрацоўнікаў. Гравюры гэтага кірунку прадстаўляюцца найбольш характэрнымі для выданьняў Скарыны, хаця яны зьяўляюцца ў іх не адразу; большасьць іх, як мы бачым, прыпадае на 1519 год, у той час, як раней, у выданьнях 1517 і 1518 гадоў мы сустракаем дрэварыты іншага, больш рознастайнага характару, якія складаюць яшчэ адну асобную групу гравюр, часта ці-



Жніво. З кнігі „Руфь" 1517 г.

каўных па рысунку, але слабейшых па тэхніцы, якая ў многіх выпадках выяўляе вядомую неспрактыкаванасьць гравёра. Гэта паказвае, пэўна, што Скарына спачатку прабаваў карыстацца паслугамі самых розных мастакоў-дрэварытнікаў, а можа, часам, і сам прымаў актыўны ўдзел у вздобе сваіх кніжок (калі ня ў якасьці гравёра, дык як аўтар рысункаў, або эскізаў),—да тэй пары, пакуль ня спыніўся на аднэй пэўнай гравюрнай школе, якая не без падстаў магла быць ім палічана за найлепшую і найбольш адпаведную мэтам яго выданьняў, і якая на справе ў чыста-мастацкім сэнсе здолела давесьці гэтыя вы-

даньні да належнае, для таго часу нават выключнае, вышыні тэхнічнае і стылістычнае дасканаласьці.

Але мастацкая апрацоўка як праскіх, гэтак і віленскіх выданьняў Скарыны яшчэ не абмяжоўваецца аднымі вышэйпералічанымі гравюрамі. Ня меней важная і для таго часу нават выключная роля адведзена ў іх орнамэнтальным аздобам чыста графічнага характару ў выглядзе загалоўных аркушаў, заставак і орнамэнтаваных вялікіх літар, якія робяць кнігі Скарыны рэдкім выняткам ня толькі сярод тагочасных, але і пазьнейшых славянскіх выданьняў, як па багацьці, так і па



Плач Ераміі. З кнігі „Ерамія“ 1519 г.

стылістычнай раскошы сваіх дэкарацыйных мотываў. Аздобы гэтыя больш-менш аднальковы ў сваіх тэхнічных і стылістычных адзнаках; з тэхнічнага боку яны вызначаюцца высокай дакладнасьцю і дасканаласьцю выкананьня; у стылістычных адносінах—элемэнтамі позьняе готыкі і італійскага рэнэсансу, у некаторых выпадках у нямецкай, а магчыма і ў чэскай яго варыяцыі, што часткова было і раней заўважана ў спэцыяльнай літаратуры [1]).

На першым месцы сярод гэтых ксылёграфічных аздоб трэба паставіць загалоўныя аркушы. У кнігах Скарыны іх можна налічыць

---

[1]) Напр., *А. И. Некрасов*. Орнамент славянских печатных изданий XV-XVI в.— „Древности. Труды Славянской Комиссии Имп. Москов. Археологич. О-ва“, т. V М. 1911; протоколы, стр. 53

шэсьць—адзін у праскай „Бібліі“, і пяць у віленскіх выданьнях. Першы з іх,—у выглядзе рамкі, орнамэнтаванай па чорным фоне расьліннымі мотывамі, шчытамі і галоўкамі драконаў, з кінаварным загалоўкам унутры,—прадстаўляецца выдатна дасканалым узорам кніжнае орнамэнтыкі, які далёка перавышае шмат якія ранейшыя выданьні, у тым ліку, напрыклад, чэскую „Біблію“ 1506 г. Крыху прасьцей загалоўны аркуш віленскага „Апостала“ 1525 г., які складаецца з дзьвёх заставак з друкаваным паміж іх загалоўкам. Затое „Малая Падарожная Кніжыца“ зноў дае некалькі больш складаных рамак, напр., у „Псалтыры“, „Шаста-



Застаўка з „Бібліі“ 1517—1519 г.

днеўцы“ і пасьледаваньні, галоўным чынам з расьлінным орнамэнтам. Ува ўсіх выпадках, пры гэтым, значную ролю граюць самыя загалоўкі, надрукаваныя прыгожым „скарынавым“ шрыфтам, з вялікіх літар, якія органічна ўключаюцца ў агульныя композыцыі аркушаў. У гэтым сэнсе, ўсе яны вызначаюцца значнай орыгінальнасьцю, выразна адрозьніваючыся ад тых нямецкіх выданьняў маленькага формату, да якіх, без належных на тое падстаў, іх набліжае Уладзімераў [1]).

Яшчэ больш цікаўны ў орнамэнтальным сэнсе застаўкі, якія сустракаюцца розных разьмераў і рысункаў. Адзін з найбольш цікаўных прыкладаў спалучэньня расьліннага орнамэнту з фантастычнымі жывёламі і чалавечымі тварамі дае ўжо першае выданьне Скарыны—праская „Псалтыр“ 1517 г. Добрыя ўзоры знаходзяцца таксама і ў бібліі, двох розных тыпаў: вялікія з знакамі Скарыны ў сярэдзіне і чалавечымі фігурамі рэнэсансавага тыпу сярод расьлінных мотываў, і меншыя—выключна на тэмы расьліннага орнамэнту, часта з акантавых лістоў па чорным фоне. Але найбольш дасканалымі зьяўляюцца, бясспрэчна, больш дробныя застаўкі віленскіх выданьняў з расьлінным і геомэтрычным орнамэнтам, таксама на чорным, а часам на кінаварным фоне, якія вызначаюцца надзвычайнай тонкасьцю як рысунку, гэтак і яго выкананьня, робячы з „Падарожнай Кніжыцы“, напрыклад, у спалучэньні з яе прыгожым шрыфтам—нешта, па выразу Стасава, накшталт „славянскага эльзэвіру“ [2]).

Нарэшце, найбольш выдатнае месца сярод усіх графічных аздоб у выданьнях Скарыны як па сваёй колькасьці, гэтак і па рознастай-

[1]) Op. cit., стар. 176.
[2]) *Стасов*, op. cit., стар. 32.

насьці тэм, бясспрэчна займаюць орнамэнтаваныя загалоўныя літары. Яны зьмяшчаюцца ў чорных рамках розных разьмераў і падзяляюцца па тэхніцы сваёй на тры групы: белыя літары на чорным фоне (найбольш часта), таксама белыя на грануляваным фоне і, нарэшце, лінейныя або штрыхаваныя літары на белым фоне. Унутры рамак самыя літары абкружае тонка гравіраваны орнамэнт, які ў праскіх вы-





Загал. літары з „Біблії“ 1517—1519 г.

даньнях складаецца з кветак, лісьця, пладоў, птушак, жывёл і чалавечых фігур, у больш дробных-жа віленскіх літарах мае выключна расьлінны характар. У пахаджэньні сваім гэтыя літары бясспрэчна ўсходзяць да заходня-эўропэйскіх традыцый, якія выявіліся ў вядомых фігурных альфабэтах XV сталецьця. Але нават у параўнаньні да заходня-эўропэйскіх узораў літары з выданьняў Скарыны можна вызначыць як нейкае досыць выдатнае зьявішча; ува ўсякім выпадку, па дасканаласьці свайго рысунку і выкананьня яны стаяць значна вышэй за літары чэскае „Біблії“ 1506 г. і нават за шмат якія тагочасныя нямецкія выданьні[1]).

Усе гэтыя рысы высокай мастацкай дасканаласьці, якімі характарызуюцца як сюжэтныя дрэварыты, гэтак і чыста орнамэнтальныя аздобы ў выданьнях Скарыны, вызначаюць для гэтых апошніх нейкае зусім асобнае месца ў славянскім друку ня толькі пачатку XVI сталецьця, але і пазьнейшых часоў. Разам з выданьнямі вэнэцыйскімі, як правільна ў свой час яшчэ заўважыў Стасаў[2]), яны застаюцца да вядомай ступені ў адзіноцтве, не перадаўшы ніякай іншай гравёрнай або друкарскай школе высока майстэрскае прыгожасьці сваёй ксылёграфічнай орнамэнтыкі. Пэўны ўплыў выданьняў Скарыны на цэлы

ПОСЛАНИЕ



КО ФІЛИМОНУ СВЕТОГО ПА
вла апстла. еже посылаеть от рима седа
во оковяхъ онисимомъ. Сказание



Той онисимъ былъ рабъ філимонов
и ошедши от него приде вримъ, и послу
говаше павлу, и бысть его велми миленъ.
Павелъ паки занеже любляше філимона
яко брата, нехотя оскорбити и. протожъ
и отсылаеть кнему раба его. Дненымже
обычаемъ, и днеными примолвями пишет
занимъ. дабы нетолико гневъ отпустилъ
ему. но и тому яко брата возлюбленнаго
принялъ его. хотяй самъ совсемъ занего
досыть учинити, скаючеся послание
Конець сказанию

Старонка з віленскага „Апостала“ 1525 г.

[1]) Пар. *Владимиров*, op. cit, стар. 76.

[2]) *Стасов*, op. cit, стар. 32.

шэраг пазьнейшых славянскіх, часткова маскоўскіх, украінскіх і заходніх і, галоўным чынам, беларускіх выд ньняў канца XVI і XVII сталецьця, з азумела, можа быць заўважаны, але, агулам кажучы, ён быў вельмі абмежаваным. Так, напрыклад, паасобныя гравюры Скарыны ніколі ня былі прадметам перайманьня, і ўплыў іх зусім не адбіўся на далейшым ходзе ра ьвіцьця беларускае (віленскае, супрасьльскае і магілеўскае) ксылёграфіі. Часьцей карысталіся ў наступных стара-беларускіх друкарнях некаторымі мотывамі скарынінскае орнамэнтыкі, таксама, як і асаблівасьцямі яго характэрнага шрыфту. Але, тут ня было бес перарыўнае перайма льнасьці друкарскіх традыцый, бо ўсьлед за Скарынай наступныя віленскія друкарні адчыніліся толькі праз поўсталецьця, атрымаўшы, праўда, ад яго ў спадчыну некаторыя друкарскія прылады, у тым ліку частку клішэ, заставак і загалоўных літар. Аднак, высокая тэхнічная дасканаласьць скарынінскай орнамэнтыкі зьяўлялася, пэўна, занадта цяжкім для перайманьня прыкладам, у поўнай меры пасьледаваць якому ня здолелі ані віленскія, ані якія-небудзь іншыя з ліку беларускіх гравёраў. З гэтае прычыны ўплывы выданьняў Скарыны выявіліся, галоўным чынам, у паўтарэньнях застав к і літар з яго ўтэнтычных клішэ—да пачатку XVII сталецьця,—або ў копіях з гэтых клішэ, ці ў грубых і далёкіх ад сваіх першаўзораў перайманьнях. Прыклады першага роду ўплыву мы бачым, напры лад, у гэткіх выданьнях, як „*Молитвы повседневныя*" (Вільня 1596), „*Казаньне сьв. Кірыла*" (Вільня 1596) і „*Граматыка*" *Зізанія* (Вільня 1596). Прыклады другога роду даюць нам „*Вертаград душэўны*" (Вільня 1620), „*Устаў літургіі*" (Вільня 1624), „*Бяседы Макарыя Егіпецкага*" (Вільня 1627) і „*Трэбнік*" (Вільня 1697). Выданьні чужаземныя карысталіся пераважна толькі скарынінскім шрыфтам і толькі ў *астроскай біблії* 1581 г. ў загалоўных літарах мы знаходзім нешта залежнае ад орнамэнтыкі праскіх літар Скарыны.

Такім чынам, нават у тых выпадках, калі ўплыў выданьняў Скарыны быў як быццам найбольшым,—як, напрыклад, у Вільні,—ён на справе ўсё-ж ня меў асабліва важнага значэньня, бо мэханічны перадрук заставак і літар Ск рыны ня мог зьявіцца асновай далейшага разьвіцьця кніжнае орнамэнтыкі ў тым-жа стылістычным кірунку. І запраўды, мы бачым, што беларускі, часткова віленскі друк у канцы XVI і ў XVII сталецьці ў большасьці сваёй ідзе ўжо іншымі, незалежнымі ад Скарыны шляхамі, і толькі ў некаторых асноўных прынцыпах яшчэ падлягае яго друкарскім традыцыям.

Але ўсё гэта толькі падкрэсьлівае асабліва выдатнае мастацкае значэньне выданьняў Скарыны ў гісторыі беларускага друку. Абмежаванасьць уплываў бясспрэчна паказвае на немагчымасьць больш-менш дасканалых перайманьняў,—бо самая першая спроба Беларусі ў галіне кнігадрукарства сама па сабе зьявілася ўжо найбольш дасканалай, зрабіўшы выданьні Скарыны аднымі з лепшых дасягненьняў ня толькі ў стара-беларускім, але і наагул у славянскім друку.

*Літаратура*: 1) „Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Исследование *П. В. Владимирова*" 1888. Стар. 53, 55-56, 63, 68—82. 2) „Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского „Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств", составленный *В. В. Стасовым*".—„Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова". СПБ. 1864. Стар. 30—32, 37, 39. 3) „Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств. Исследование *Д. Ровинского*". М. 1870. Стар. 5-6, 8.

4) „Подробный словарь русских гравированных портретов. Составил *Д. А. Ровинский*“. СПБ. 1888. Т. III. 5) „Подробный словарь русских граверов XVI—XIX в. Составил *Д. А. Ровинский*“. СПБ. 1895. Т. I. Стар. 8—10, 13-14. 6) *А. Е. Викторов*. „Замечательное открытие в древне-русском книжном мире“.—„Беседы в О-ве Любителей Российской Словесности при Имп. Московском Университете“. Вып. I. М. 1867. Стар. 6. 7) *А. И. Некрасов*. „Книгопечатание в XVI и XVII веках“.— „Книга в России“, I, стар. 95 и 105. 8) *А. И. Некрасов*. „Орнаментика славянских печатных изданий XV-XVI в.“—„Древности. Труды Славянской Комиссии Моск. Археологического О-ва“. Т. V, протоколы, стар. 53. 9) *Павло Попов*. „Початки друкарства у слов'ян“.—„Бібліологычні вісти“. Кіеў 1924. Стар. 23-25 і 29. 10) **Dobrowski.** „Litterarische Nachrichten von einer Reise nach Schweden“.—„Neuere Abhandlungen der Böhmischen Gesellschaft der Wissenschaften“. Прага. 1795. Стар. 186. 11) **Michała Wiszniewskiego** „Historya literatury polskiej“. Кракаў, 1851. Т. VIII. Стар. 467. 12) *М. Шчакаціхін*. „Гравюры і кніжныя аздобы ў выданьнях Францішка Скарыны“.—„Зборнік у памяць 400-лецьця беларускага друку“. Выд. Інстытуту Беларускае Культуры. Менск, 1926. (Друкуецца).






Д. Васілеўскі

# Крыніцы мінулага Беларусі

Краязнаўчыя таварыствы, густой сеткай пакрыўшыя абшар Савецкай Беларусі, усюды шукаюць пэўныя крыніцы нашага мінулага, але пры гэтым зусім мала зварачваюць увагі на запісы нашых сваякоў у жыцьці—яўрэяў. Прадметы яўрэйскае культуры мала дасьледваны і захаваны ў нашых музэях. Шмат чаго ўжо не далічымся, хаця ведаем, што было. Яўрэі жылі паміж беларусаў ужо каля 400 год, і вось усе падзеі грамадзкага і прыроднага жыцьця краю занасіліся старэйшынамі кагалу ў асобныя кнігі—„пінкосы", якія можна лічыць летапісамі жыцьця за соткі год тае акругі, дзе вёўся „пінкос". Няхай кагал больш цікавіўся сваёй уласнай доляй, але-ж зьявы прыроды і грамадзкага жыцьця аднолькова чапалі і беларуса. А загэтым, панашаму, „пінкосы" аднолькова цікаўны і карысны для гісторыі мінулага Беларусі, іх трэба зьбіраць і ахоўваць.

Амэрыканцы даўно ўжо купляюць „пінкосы" на Беларусі. Летась у м. Дуброўне мы даведаліся аб „пінкосе", якому налічвалі больш за 300 год, а калі мы сталі даведвацца ад абшчыны, куды ён дзяваўся—нам адказалі, што яго адкупілі амэрыканцы за 300 даляраў. Амэрыканцы не шкадуюць грошы, а краязнаўцы лянуюцца паклапаціцца аб тым, каб не загінулі прадметы матар'яльнае і духоўнае культуры яўрэяў на Беларусі.

Такія асяродкі культуры хасыдзізму, як Любавічы, Ляды, мала дасьледваны. У школе цадзікаў у м. Ляды адчынены народны дом, абсталяваньне школы загінула і з цягам часу ўжо аб цадзіках не даведаешся. Трэба пры ўсіх раённых таварыствах краязнаўства арганізаваць сэкцыі яўрэйскай культуры і пашырыць у гэтым кірунку дзейнасьць акруговых таварystваў. Пры акруговых музэях трэба арганізаваць аддзелы яўрэйскае культуры. Праўда, некаторыя музэі гэта ўжо і робяць. Віцебскі акруговы музэй мае шмат матар'ялаў яўрэйскае культуры, але цяснота памяшканьня душыць замеры музэйных працаўнікоў. Сустракаюцца такія-ж прадметы і ў іншых акругах. У Воршы ў музэі былі 2 срэбныя сямісьвечнікі, зробленыя даўно. Іх дабылі ў любавіцкага рабіна, а з музэю іх укралі гады тры назад.

Калі-б усё гэта сабраць у кучу ў дзяржаўным музэі ды пабудаваць добры адпаведны аддзел, то гэта было-б значнае набыцьцё Савецкае Беларусі.

Месца „пінкосаў" не ў Амэрыцы, а ў такіх аддзелах дзяржаўных музэяў. У першую чаргу аб гэтым трэба паклапаціцца нашым раённым краязнаўчым таварыствам праз настаўнікаў яўрэйскіх школ, якія зараз ёсьць ўжо амаль не па ўсіх мястэчках Савецкае Беларусі.



М. Вэйнгер

# Географічная номэнклятура ў вуснах яўрэяў

Кожнай мове пры артыкуляцыі таго ці іншага гуку ўласьцівы пэўны ўклад гаварыльнага апарату. Гэтай акалічнасьцю тлумачыцца той факт, што фонэтыка запазычанага з другой мовы слова ніколі не застаецца бяз зьмены ў тэй мове, якая яго запазычыла. Праўда, гэта зьмена не заўсёды заўважваецца вухам не спэцыялістага.

У паказаным хаваецца тлумачэньне таго, што польскае „Łodź“ гучыць у расійца „Лодзь“, у паляка „Вязьма“ гучыць „Wjaźma“ і г. д.

Таксама і яўрэй, карыстаючыся географічнай номэнклятурай,ператварае яе адпаведна патрабаваньням свайго моўнага чуцьця.

У гэтым артыкуле мы прасочым зьмены, якія наглядаюцца ў географічных назвах, калі яны трапляюць у вусны яўрэя. Пры гэтым мы будзем мець на ўвазе пераважна номэнклятуру ў славянскіх краінах—Беларусі, Украіне, РСФСР, Польшчы.

Зьмены, заўважаныя намі ў географічных назвах, мы будзем прыводзіць у сувязь з агульнымі законамі мовы, уплывам якіх гэтыя зьмены тлумачацца.

## Зьмены ў галіне вокалізму

### *Націскныя галосныя*

Асноўныя законы мовы праведзены ў шэрагу географічных назваў.

Славянскае „а“ ў адчыненым складзе ў шэрагу выпадкаў пераходзіць у яўрэйскае „о“ (параўнай нямецк. Sagen—яўр.—бел.-літ. sogn).

Пр*а*га—Pr*o*g.

Кр*а*каў—Kr*o*ke.

У польска-яўрэйскім і украінскім дыялекце ў даным выпадку маем—„u“ (бел. у).

Ул*а*дзімер-Валынскі—Z*u*dmer.

Р*а*дам—R*u*dym.

К*а*ліш—K*u*lisch.

Ск*а*ла—Sk*u*ł.

К*а*зімер—K*u*zmyr.

Славянскаму „о“ адпавадае „oj“ напр., у Ловіч—Lojwitch (параўн. ям. tot яўр. tojt).

Славянскаму „у“ адпавядае ў польскім і украінскім дыялекце „і“ бо „у“ (бел „ы“).

Слав*у*та—Slaw*y*te.

К*у*тно—K*i*tne (пар. ням. Blüt, klug—польск.—укр. błyt, klig

Літоўска-беларускі яўрэйскі дыялект, які ня ведае гуку „у“ (ы) ператварае гэты гук у „і“.

Мозыр—Mozir, Быхаў—Bichow.

Польскі і украінскі дыялекты, якія маюць гэты гук, захоўваюць яго.

Мне вядомы два выпадкі, калі гук „ы“ адпавядае „и“ (бел. „у“).

Новая Мыш—Najmusch.

Капыль—Kapule.

У некалькіх выпадках гук „у“ адпавядае яўрэйскаму „oj“ напр.: Луцк—Łojck.

Галосны пад уплывам „р“ падпадае такім-жа зьменам, якія наглядаюцца і ў асноўнай масе слоў:

Góra Kalwarja (Польшча)—ger.

Садагора (Букавіна)—Sadyger.

Бярдычаў—Bardytschew.

Пецярбург—яўр.-укр. Pejterbarg.

Курчаў—польска-яўр. Kortschew.

Муранаў (вуліца ў Варшаве) Mornow.

(параўн. ням. nur, sterben—яўр. nor, schtarbm).

Як бачым з некаторых прыведзеных прыкладаў, уплыў „р“ адбіваецца аднолькава як на націскных, так і на ненаціскных галосных.

Калі славянскія гукі ў адных выпадках падпадаюць пад агульны закон, які дыктуецца звычайна нямецкім элемэнтам яўрэйскае мовы, то ў другіх выпадках яўрэйская мова прымае бяз зьмены славянскія моўныя зьявы. Гэта датычыцца, напрыклад, аканьня ў беларускай і расійскай мове, якое захоўваецца яўрэйскай мовай у запазычаных словах.

Слабодка—Słabodke.

Бабруйск—Babrujsk.

Гарадок—Haradok.

Барысаў—Barysew.

Адэса—Ades.

*Ненаціскныя галосныя*

Унівэрсальны закон у справе ненаціскных галосных усходня-германскіх моў (сучасная нямецкая, і яе дыялекты, ангельская, а таксама яўрэйская мова) заключаецца ў тым, што названыя галосныя выяўляюць вялікую тэндэнцыю да рэдукцыі, аслабленьня ў бок гуку тыпу „е“, які слаба артыкулюецца і можа зусім адпасьці, што зьяўляецца другой стадыяй працэсу[1]).

Гэты закон праяўляецца і ў географічнай номэнклятуры.

Першую ступень, калі ненаціскныя галосныя пераходзяць у *е*, мы маем бяз выключэньня, калі слова канчаецца на галосную апрача *і*, *ы*.

Ворш*а*—Orsch*e*.

Масква*а*—Moskw*e*.

Бярэзін*а*—Berezin*e*.

Коўн*а*—Kown*e*.

Рэчыц*а*—Retschic*e*.

Але і ў сярэдзіне слоў без націскной галоснай, адпаведна агульнаму закону, трапляюць пад рэдукцыю.

Сьнядава—Sniadewe.

Чанстахоў—Tschenstechow.

---

1) Wilmanns Deütsche Grammatik. Gotisch, altmittel und neuhochdeutsch B. 1.

Кацярын*а*слаў—Katerin*e*sław.

Пры ненаціскных *і*, *ы* мы маем звычайна другую стадыю—адпадзеньне іх.

Любавічы—Libawitsch.
Лапічы—Łapitsch.
Халопенічы—Chalopienitsch.
Бялынічы—Belinitsch.
Сувалкі—Suwałk.
Трокі—Trok.
Броды—Brod.
Кельцы—Kelc.
Бэндэры—Bender.

У тых назвах, якія ўсё такі захоўваюць *і* і *ы*, у беларускім, яўрэйскім дыялекце наглядаецца тэндэнцыя да *э*.

Горкі—Horke.

Адпадзеньне галоснага маем і ў другіх выпадках.

Варшава—Warschew (так сама Warsche).
Адэса—Ades.

Пры адпадзеньні канцавога ненаціскнага галоснога наглядаецца іншы раз імкненьне для палёгкі вымаўленьня пры сьцячэньні некалькіх зычных разьвіць дадатковы неарганічны галосны перад апошнім зычным. Асабліва гэта мае месца, калі адзін з зычных, тым больш абодва, плаўныя.

Ромны—Romen.
Крынкі—Krinok.
Лубны—Luben.

Разьвіцьцё дадатковага галоснага наглядаецца ў шэрагу назваў пасьля плаўнай у такіх выпадках, калі ў арыгінале галоснага на канцы няма.

Ямпаль—Ïampełe.
Краснопаль—Krasnopole.
Лепель—Leple.
Гомель—Homle.
Капыль—Kapule.

У другіх падобных назвах маем ухіленьні; напр.:

Ревель, Радамысьль, Чарнабыль не разьвіваюць дадатковага *е*.

У васобных назвах маем падобнае неарганічнае *е* таксама і ня пры плаўных зычных.

Віцебск—Witebske.
Вэнграў (Ломж. губ.)—Wengrowe.
Сокалаў (Ломж. губ)—Sokołowe.

## Консонантызм

г (h) у канцы слова не вымаўляецца

Астрог (Валынск. губ.)—Ostre.

Выпадзеньне h у сярэдзіне слова цягне за сабою выпадзеньне *і*, *и*. У назьве Магілеў, гэта на яўрэйскай мове дае Молев. Багуслаў—Boslew.

Хаця славянскае *ль* звычайна захоўваецца, але ў асобных выпадках наглядаецца ацьвярдзеньне гэтага гуку.

Вільня—Wiłne.
Шаўлі—Schawł.
Скідаль—Skidł.

У шэрагу назваў наглядаецца адпадзеньне канцавога зычнага.

## Уплыў націску

Перамена месца націску зьяўляецца таксама прычынай зьмен у геаграфічных назвах.

Nawâredek або Nawaridik заміж Навагрудак стала магчымым толькі таму, што націск з трэцяга перашоў на другі склад. Такім чынам, галосныя апошніх двух складоў трапілі пад рэдукцыю па звычайным для ненаціскных галосных законе.

Ператварэньне Магілева ў Молеў стала магчымым таксама дзякуючы перамяшчэньню націску на першы склад.

Тое-ж самае ў

Варшава—Warschew.

## Ідэолёгічны ўплыў

Я ведаю адзін выпадак, калі ў геаграфічнай назьве адбіваецца рэлігійная яўрэйская ідэолёгія. Так вымаўляюць слова *Царква* ў назьве „Белая Царква“ (Кіеўскай губ.) яўрэй гаворыць—Schwarz tyme—„*чорная нечысьць*“, або трохі больш цярпіма—Sude Luwm—Белае поле. Звычайна назва гэтага гораду гучыць—Bełycerkyw.

## Пераклад назваў

Калі слова, якое грае ролю іменьніка ўласнага—назвы геаграфічнага пункту,—яшчэ ня ўтраціла для разуменьня яўрэя свайго матар‘яльнага, лёгічнага зьместу, дык яно часта перакладаецца. Гэта мае месца пры складаных частках геаграфічных назваў—*новы*, *стары*, якія перакладаюцца як адпаведныя агульныя—noj alt. Напр.: altbichow, nobichow. Стары Быхаў, Новы Быхаў. Altkonstantin—Старaконстантынаў.

Такі пераклад распаўсюджаны асабліва адносна назваў вуліц, пляцоў і наагул частак паселішчаў. У Варшаве

Żelazna Brama—ajzerner tojer.

Nowy świat—Naje Wełt.

Krakowskie Przedmieście—krakewer farschtut.

У Менску: Пляц Волі—Frajhajt płaz.

Рыбны рынок—Fischmark.

У заключэньне мы просім чытачоў паведамляць яўрэйскую лінгвістычную камісію Інбелкульту аб тых яўрэйскіх геаграфічных назвах, у якіх наглядаюцца якія-небудзь зьмены ў параўнаньні з моваю, з якой яны ўзяты.





ДЗЯРЖАЎНЫ
ПАЛЯЎНІЧЫ ЗАПАВЕДНІК
БССР
Маштаб 6 3 0
Умоўныя знакі:
Бабровыя хаткі
Куніца.
Лось
Дзікая каза.
Мядзьведзь
Дзік.
Мяжа запаведніка
Бярэзынь
Бегамля
Мсьціж
Сялец
Слабада
Папова
Бездзіна
Вал. Гара
Марьянова
Паўлава
Стайск
Вогава
Студзёнка
Жартайка
Галмоўка
Бараўляны
Лісіна
Нешкава
Халмалец
Рагатка
Весялова
Воз. Пялік
Р. Бярэзіна

А. Фядзюшын

# Дзяржаўны паляўнічы запаведнік БССР

Мала хто ведае аб тым, што ў Барысаўскай акрузе ёсьць паляўнічы запаведнік. Між тым гэта вельмі цікаўная і важная з культурнага і гаспадарчага поглядаў установа заслугоўвае вялікае ўвагі.

Перш-на-перш трэба растлумачыць прычыны, якія выклікалі патрэбу ў запаведніку.

Справа ў тым, што мінулая імпэрыялістычная, а затым грамадзянская вайна, якая гэтак зацягнулася на тэрыторыі Беларусі, вельмі цяжка адбілася ня толькі на дабрабыце насельнікаў, але таксама і на прыродзе нашага краю. Зьнішчаны шырокія прасторы лясоў, а разам з лясамі загінула і найкаштаўнейшая паляўнічая жывёльнасьць. Цяпер, нават у самых глухіх закутках Беларусі, многія каштоўныя зьвяры або зусім зьнiклі, або зрабіліся вельмі рэдкімі.



Р. Вялікая ў межах запаведніку.

Дзякуючы недахвату сьвядомасьці мас, дзіч пры сучасных спосабах аховы зьнікае з катастрофічнай хуткасьцю.

Блізкі да поўнага зьніканьня, між іншым, і такія жывёлы Беларусі, якія зьяўляюцца апошнімі прадстаўнікамі сваіх відаў.

Зьнішчэньне іх ёсьць знішчэньне віду, а страту віду (ў біолёгічным сэнсе) нічым нельга папоўніць. Можна наладзіць зусім зруйнованую гаспадарку, можна адбудаваць ушчэнт зруйнованы горад, але ніякімі сродкамі і ніколі нельга аднавіць зьнікшы від жывёлы. Страта віду— страта абсолютная.

Каб не дапусьціць далейшага зьніканьня каштоўных парод дзічы, як, напрыклад, лася, дзікай казы (сарны), хутровых зьвяроў, падобных



Рэчка Гурбянка, на якой жывуць бабры.

да куніцы, бабра і г. д., і быў, згодна пастановы Саўнаркому БССР ад 30 студзеня 1925 г., утворан Дзяржаўны Паляўнічы Запаведнік у паўночна-заходнім кутку Барысаўскае акругі каля р. Бярозы, на поўнач ад возера Пялік.

Гэты крок, накіраваны на ахову прыроды, прыводзіць да размнажэньня зьвяроў у запаведніку і паступовага перасяленьня іх адтуль у ваколічныя лясы, дзе ўжо не забараняецца паляваньне.

Такім чынам, запаведнік рэгулюе колькасьць дзічы ў суседніх лясох і мае важнае экономічнае значэньне.

Месца для запаведніку было выбрана вельмі ўдала; вялікая плошча забясьпечвае патрэбную для зьвера колькасьць спажывы і пэўную волю, без якой дзікія жывёлы ня могуць нормальна пладзіцца. Трэба думаць, што ў зьвязку з гэтым у хуткім часе ў запаведніку значна павялічыцца лік тых зьвяроў, якім і тут пагражала зьнішчэньне (лось, бабёр, куніца, белка, дзікая каза, дзік або дзікі кабан і інш.).

Межы запаведніку цягнуцца амаль што на 200 вёрст; агульная плошча, лічачы ўсе віды ўжыткоўнасьцяй, дасягае 650 кв. вёрст (60.000 дзес.), з якіх 43.000 дзес. пакрыта лесам. Крайнія пункты запаведніку ляжаць на 53 вярсты адзін ад аднаго.

Маючы на ўвазе, што лес ў запаведніку складаецца з дрэў маладых і сярэдніх па ўзросьце, трэба прызнаць, што адсутнасьць эксплёатацыі гэтага лесу ў сучасны момант прынясе рэспубліцы адну карысьць.

Запаведнік абслужваецца адным загадчыкам, двума яго намесьнікамі, 6 егерамі-аб'езчыкамі, 25 егерамі-лясьнікамі і адным вартаўніком пры бабровых сядзібах. Утворана канцэлярыя і наладжана дзелаводзтва.



Бабровая хатка над возерам Асінка каля хут. Лубніцкі.

Асабісты склад ахоўвае тэрыторыю запаведніку ад браконьераў і наглядае за выкананьнем палажэньняў аб запаведніку (па падліку і падкармліваньні дзічы).

Перад утварэньнем запаведніку асаблівая камісія абсьледвала яго цяперашнюю тэрыторыю ў сьнежні 1924 г. і выявіла там прысутнасьць, праўда, нямногіх прадстаўнікоў блізка што ўсіх нашых парод дзічы: лася, дзікай казы, мядзьведзя, куніцы, выдры, норыцы, белкі, рыся, гарнастая, а з птушак—глушца, пардвы, цецярука, качак і г. д.

Але самай цікаўнай вынаходкай было выяўленьне бабра, якога лічылі ўжо зьнішчаным. Сядзібы бяброў раскіданы як па верхняй Бярозе, гэтак і па азёрах ды канавах запаведніку. Цяпер выяўлена ўсяго 22 сям'і баброў на тэрыторыі запаведніку, прычым бабры тут жывуць пераважна ў знадворных хатках. Гэта сьведчыць аб адносна пакойным жыцьці баброў, бо там, дзе іх часта непакояць, яны жывуць у падземных пячурках, выйсьці з якіх знаходзяцца пад вадой, так што самая пячурка знадворку няпрыметна.

Прымаючы пад увагу, што ня толькі ў Савецкім Саюзе, але і на ўсім сьвеце [1]) бабры амаль што зьніклі, бярэзінскае паселішча баброў трэба лічыць аднэй з самых выдатных колёній гэтага надзвычайна цікаўнага грызуна.

Ужо толькі з гэтае прычыны ўтварэньне тут запаведніку было пажаданым, як з навуковага погляду, гэтак і з погляду экономічнага.



Рэчка Жартайка ў межах запаведніку.

Трэба думаць, што баброў можна будзе гадаваць з мэтай эксплёатацыі іх на хутры і на „струю", якая, аднак, у вапошнія часы страціла сваё мэдыцынскае значэньне ў зьвязку з пашырэньнем новых адпаведных прэпаратаў лябораторнага вырабу.

Ня гледзячы на тое, што запаведнік утварыўся зусім нядаўна, колькасьць дзічы ў ім хутка ўзрастае, як гэта відаць з справаздачы загадчыка запаведніку т. Л. Г. Невяровіча на 1 кастрычніка 1925 г.

Дзякуючы барацьбе з браконьерамі і з беспарадачным выпасам свойскае жывёлы, тут ня толькі нормальна плодзіцца мясцовае зьвяр'ё, але сюды ў ціхія лясы, балоты і азёры перасяляецца дзіч суседніх лясьніцтваў.

Цяпер у запаведніку налічваюць 20 ласёў, тады як у час проэктаваньня запаведніку камісія знашла тут сьляды прысутнасьці 4—6. Прымячаецца разрастаньне бабровых сядзіб; лік дарослых мядзьведзяў дасягае 10; зьявіліся дзікі, якія раней былі зьнішчаны. Павялічваецца лік выдраў, норыц, куніц, а з птушак—трэба чакаць размнажэньня глушцоў, пардваў, рабцоў, цецярукоў і качак.

---

1) Бабры штучна захаваны толькі ў Паўн. Амэрыцы, у вадным месцы ў паўднёваў частцы Францыі, у Нямеччыне на Эльбе і ў паўднёвай Норвэгіі. У Савецкім Саюзе бабры захаваліся на Беларусі, на Украіне, у Тамбоўск. губ. і, можа яшчэ на Урале ды Сібіры, але гэта вымагае яшчэ праверкі.

Каб далейшае размнажэньне дзічы разьвівалася, трэба зьнішчаць мясажэраў і драпежнікаў (ваўкоў і драпежных птушак), якія значна шкодзяць паляўнічай гаспадарцы. З гэтай мэтай адміністрацыя запаведніку мае скарыстаць усе спосабы зьнішчэньня, апроч тых, якія наагул не пажаданы ў запаведніку (нельга, напрыклад, дапускаць шумных аблаў з заганяльнікамі).

Апрача гэтага, ужо распачата справа ўтварэньня ў запаведніку гадавальніку („пітомніка") для хутровых зьвяроў, у першую чаргу



Канава з возера Пялік.

будуць зроблены спробы штучнай гадоўлі лісаў, куніц і выдраў. Матар'ял для такога гадавальніку ўжо ёсьць: сродкі адпушчаны Наркамземам БССР.

У хуткім часе, дзякуючы працам Наркамзему, усе кордоны ў запаведніку будуць зьвязаны тэлефонам, а гэта значна палепшыць пастанову справы аховы. Выяўляецца магчымасьць устаноўкі ў запаведніку радыёпрыемніку, і тады працаўнікі запаведніку будуць шчыльней зьвязаны з усім знадворным сьветам.

Так у глыбіні аднаго з самых глухіх куткоў Савецкае Беларусі робіцца вялікая культурная справа, якая ў будучыне можа адыграць немалую ролю і ў гаспадарцы нашае старонкі.

М. Зьбіткоўскі

# Аб морве і гадоўлі шаўкоўнага вусеня ў Слуцкай акрузе

Улетку 1925 г. ў часе разьездаў па Слуцкай акрузе з мэтай зьбіраньня матар'ялаў да геоботанічнай карты Беларусі я спаткаў каля вёскі Горкі Стара-Дароскага раёну ў сядзібе Зарэчнае невялікую плянтацыю морвы („тутового“ або „шелковичного“ дрэва).

Дрэвы дасягаюць вышыні да 5 мэтраў і прыносяць многа пладоў, а значыць, добра дапасаваліся да беларускага клімату. Ёсьць указаньні, што морва добра расьце як у паўднёвай, гэтак і ў паўночнай частках Беларусі, а значыць, можна гутарыць аб магчымасьцях шаўкоўніцтва ў нашай старонцы, бо дзе добра ўзрастае морва, там магчыма і гадоўля шаўкоўнага вусеня.

1923 г. ў сядзібе Зарэчнае гр. М. Г. Якубовіч праз цікавасьць выпісаў з Умані адзін залатнік грэны і вывеў ды ўзгадаваў шаўкоўных вусеняў, кормячы іх лісьцем сваіх морваў. У выніку досьледу гр. Якубовіч атрымаў 6 фунтаў шаўковых капшучкоў („коконов“).

На другі раз гр. Якубовіч не паўтараў сваёй спробы, бо капшучкі ў такім малым ліку не знашлі сабе збыту. Аднак, спроба гэтая паказала, што шаўкоўніцтва на Беларусі ў поўнай меры магчыма.

Было-б вельмі пажадана атрымаць з месца, дзе расьце морва, адказы прыблізна на такія пытаньні:

1. Месца, у якім расьце морва (раён, сельсавет, бліжэйшая вёска.

2. Акалічнасьці, у якіх расьце морва (сад, парк, ці што).

3. Лік дрэў.

4. Стан дрэў: a) вышыня, b) таўшчыня на вышыні грудзей чалавека, c) ураджай пладоў у мінулым годзе, d) догляд за дрэвамі, e) ці церпяць дрэвы ад марозу, f) калі папукаліся пучкі (пупышкі), g) калі распусьціліся лісты, кветкі, h) калі спадае лісьце ўвосені.

5) Весткі аб паходжэньні пасадкі (кім, калі пасаджаны дрэвы і з якой мэтай).

6. Ці рабілася або ці робіцца спроба гадоўлі вусеняў лісьцем мясцовых морваў. Калі рабілася, дык трэба дакладна апісаць, кім, як і калі.

7. Дэталёвы адрас асобы, якая паведамляе аб морве.

Да адказаў пажадана далучаць галінкі, засушаныя з лістамі і кветкамі або пладамі морвы.

О. Палянская

# Аб удзеле краязнаўчых організацый у справе геоботанічнага дасьледваньня Беларусі

Гэты артыкул мае на мэце прыцягнуць краязнаўчыя організацыі і аматараў у справе вывучэньня прыроды на Беларусі да ўдзелу ў геоботанічным дасьледваньні, наладжаным Інбелкультам.

Тым з аматараў, якія захацелі-б прыняць удзел у гэтай працы, можна прапанаваць для распрацоўкі шэраг тэм як агульнага, так і спэцыяльнага характару, залежнага ад мясцовасьці.

З агульных тэм, найболей даступных для аматараў, зьяўляецца складаньне флёрыстычных картачак для дрэўных пород свайго раёну. Такія пароды, як елка і граб, зьяўляюцца паказальнікамі тыпу лесу, і для дасьледчыкаў Беларусі важна ведаць дакладныя межы іх пашырэньня. Але і апрача елі ды грабу, ёсьць яшчэ цэлы шэраг дрэўных парод, характэрных для расьлінных асоцыяцый Беларусі. Надта важна і цікава высьветліць дакладны малюнак разьмеркаваньня па тэрыторыі Беларусі наступных дрэўных парод:

I
- Елка—Picea excelsa.
- Шэрая вольха—Alnus incana (ня зьмешваць з чорнай вольхай).
- Ялавец або яленец—Juniperus communis.

II
- Граб—Carpinus Betulus.
- Бераст—Ulmus campestris.
- Глог калючы—Crataegus oxycantha.
- Брызьліна эўропэйская—Evonymus europaeus.
- Аза ея—Azalea pontica.
- Жоўтазель хварбоўны—Genista tinctoria i G. germanika.
- Зяновец—Cytisus biflorus.

III
- Дзікая яблыня—Pirus Malus.
- Дзікаяй груша—Pirus Communis.
- Вяз—Ulmus effusa.
- Лём—Ulmus montana.
- Брызьліна гузаватая—Evonymus verrucosus.
- Бяроза ніцая—Betula humilis.
- Крушына звычайная—Rhamnus cathartica.
- Ясакар—Populus nigra.

Першая група характэрна для паўночнае часткі Беларусіі а ў паўднёвай зусім не сустракаецца, (апрача елі, якая рэдка). Расьліны другой групы, наадварот, характэрны для паўднёвае Беларусі

і не сустракаюцца ў паўночнай; расьліны 3-й групы, хоць распаўсюджаны па ўсёй Беларусі, але месцам зьяўляюцца надта рэдкімі.

Для дакладнага вывучэньня іх распаўсюджаньня трэба якімі-небудзь умоўнымі знакамі адзначыць на карце месца іх знаходжаньня. Да складаных такім чынам флёрыстычных карт павінна быць прыложана апісаньне з дакладным паказаньнем географічнага пункту, дзе знаходзіцца тая або іншая дрэўная парода і тыя ўмовы, у якіх яна расьце. Апісаньне трэба складаць па наступнай схэме.

| Назва дрэўн. пароды | Дакладнае месца знаходжаньня | Ступень пашыранасьці | Умовы росту |
|---|---|---|---|
| | | Напр., утварае лясы, сустракаецца ў лясох часта; сустракаецца адзінкамі; надта рэдка. | Напр., у сасновых лясох, на балотах, каля поля. |

Пры паказаньні месца знаходжаньня рэдкіх парод трэба абавязкова засушваць некалькі галінак іх, як дакумантальны довад іх росту ў даным месцы. Пры гэтым, наагул, пажадана, каб галінкі былі засушаны з цьветам або з пладамі, а для некаторых парод гэта ўмова зьяўляецца абавязковай, бо йначай іх цяжка адрозьніць ад блізкіх відаў. Так, жоўтазель і зяновец трэба зьбіраць з цьветам, а бераст, вяз, лём і глог з пладамі.

Адначасна на другую карту можна нанесьці расьлінныя формацыі свайго раёну (г. ё. буйныя расьлінныя згуртаваньні). На Беларусі сустракаюцца наступныя формацыі:

1. Зьмешаныя лясы з перавагаю елкі (грабу няма);
2. Шырокалістава-яловыя лясы (пераважаюць дуб, граб і елка);
3. Шырокалістовыя лясы бяз елкі (пераважаюць дуб і граб);
4. Чыстыя сасновыя бары;
5. Сасновыя бары з елкаю ў другім паверсе;
6. Чорнаальхоўцы;
7. Чыстыя пойменныя дубнякі ў заліўных далінах рэк;
8. Сфагнавыя тарфянікі;
9. Гіпнава-асаковыя тарфянікі.

Геоботанічная карта Беларусі, якая цяпер складаецца, мае маштаб 10 вёрст у цалі; з прычыны такога дробнага маштабу на карту наносяцца не асобныя асоцыяцыі, а толькі пералічаныя вышэй формацыі.

Больш цяжкай, але затое цікаўнай і важнай задачай зьяўляецца апісаньне расьлінных асоцыяцый і нанясеньне іх на карту[1]) буйнога маштабу. Для гэтага патрэбны ўжо некаторае знаёмства з расьліннасьцю свайго раёну і азнаямленьне з працай проф. В. Н. Сукачова „Введение в изучение растительных сообществ“. Апрача гэтага, трэба абзавесьціся азначнікам расьлін і картаю памагчымасьці буйнога маштабу. Карты маштабу—3 вярсты ў цалі можна выпісаць з магазынаў Галоўнага Штабу ў Маскве і Ленінградзе, (ц. 22 кап. за аркуш); карты больш буйнога маштабу (1 і 2 вярсты ў цалі) лічацца сакрэтнымі

[1]) Аб складаньні геоботанічных карт гл. артыкул проф. Н. И. Кузнецова ў краязнаўчым зборніку „Как изучать свой край“. Ленінград, 1925 г.

і недаступны для шырокага карыстаньня. Пры невялікай прасторы раёну, які дасьледуецца, лепш за ўсё самому скласьці вокамерны плян мясцовасьці.

Пры рабоце з трохвёрснымі вайскова-топографічнымі картамі належыць мець на ўвазе, што лясы, нанесеныя на іх, зусім не адпавядаюць запраўднасьці, бо карты гэтыя складаліся ў 1866 годзе, а з таго часу шмат лясоў разворана пад поле. Для правільнага нанясеньня на карту контураў лясных масываў належыць зьвярнуцца за весткамі ў канцэлярыю адпаведнага лясьніцтва.

Апісаньні расьлінных згуртаваньняў пажадана рабіць памагчымасьці ў большай колькасьці, бо яны даюць той фактычны матар'ял, на падставе якога можна судзіць аб расьлінным акрыцьці краіны. Апісаньне робіцца па наступным пляне, выпрацаваным профэсарам Сукачовым:

1. Чысло і год;
2. Назва згуртаваньня;
3. Географічнае палажэньне;
4. Топографія і ўмовы ўвільгатненьня;
5. Мікрорэльеф і характар паверхні;
6. Апісаньне глебы па паземах;
7. Дрэўная расьліннасьць, агульны стан, паўната і вышыня;
8. Склад дрэўнае расьліннасьці: 1-ы паверх, 2-гі паверх, падлесак, падрост;
9. Травяністая расьліннасьць, агульны стан, гушчыня, вышыня.

Склад травяністай расьліннасьці.

| Ярус (паверх) | Назва расьлін | Ступень пашыранасьці | Фаза разьвіцьця |
|---|---|---|---|
| | | | |

Паверх пазнаецца па адноснай вышыні расьліны ў згуртаваньні (першы паверх—самы высокі, пяты—самы нізкі. Фаза разьвіцьця можа быць наступная: цьвіценьне, плоданашэньне, вэгетацыйны стан і г. д. Ступень пашыранасьці можа быць азначана пяцібальнай сыстэмай: 5—скрозь распаўсюджана (расьліна ствapae фон); 4—сустракаецца часта; 3—расьсеяна; 2—рэдка; 1—адзінкамі. Складзеныя такім чынам апісаньні згуртаваньняў, геоботанічныя і флёрыстычныя карты і іншы матар'ял аўтар гэтага артыкулу просіць перасылаць у Інстытут Беларускае К льтуры ў Менску для навуковай апрацоўкі гэтых матар'ялаў і ўключэньня атрыманых вестак у геоботанічнае апісаньне Беларусі і карту яе расьліннасьці, якая выдаецца Інстытутам Беларускае К льтуры. Іменьні тых аўтараў, матар'ял якіх будзе скарыстаны, будуць у тэксьце ўспамянуты. Усякія запытаньні адносна закранутай тэмы аўтар просіць накіроўваць непасрэдна яму па адрасу: „Ленинград. Гербарий Главного Ботанического Сада“.



Анатоль Тычына

# Бюлетэнь надвор‘я па БССР за кастрычнік 1925 г.

Агляд сыноптычных карт за кастрычнік месяц паказвае, што на працягу ўсёй першай дэкады (10 дзён) кастрычніка мінулага году ўся заходняя палова і крайні поўдзень Эўропэйскага контынэнту знаходзіліся пад уплывам галіны Азорскага максымуму і ціск паветра тутака быў павышаны, а на ўсёй поўначы і крайнім усходзе—паніжаны. Што тычыцца Азійскага максымуму, дык ён, як відаць, да гэтага часу ўсё яшчэ ня меў значнай моцы, а таму і не выяўляў большай актыўнасьці. Паказаная галіна Азорскага максымуму часамі набывала гэткую моц і сілу, што разгортваючыся ахоплівала сваёю паўночнаю часткаю і БССР. Такі стан барычнага рэльефу дазваляў акіянічным мінімумам, агінаючы паўночна-ўсходні схіл галіны высокага ціску, значна пасоўвацца на поўдзень, у глыб контынэнту, і тутака разгортвацца ў моцныя цыклёны. Цыклёны гэтыя ў такім выпадку адціскалі галіну максымуму і ахоплівалі БССР сваёю заходняю і паўднёва-заходняю часткамі. Паказаныя зьмены ў стане барычнага рэльефу і зьвязаныя з гэтым пераходы БССР з антыцыклёнальнай зоны ў цыклёнальную і наадварот справаджаюцца, зразумела, і павінны справаджацца кожны раз адпаведнымі зьменамі рэжыму надвор‘я. Гэта адбілася перш за ўсё і галоўным чынам на зьменах кірункаў ветру і на сярэдняй начадзеннай тэмпэратуры паветра. Апошняя (тэмпэратура), выказваючы пэўныя тэндэнцыі да паступовага з дня-ў-дзень зьніжэньня, зьмянялася ўвесь час вельмі няроўна. Так: 1—3 сярэдняя начадзенная тэмпэратура паветра па ўсёй тэрыторыі БССР была вышэй за 10 градусаў, 5-6-га—яна зьнізілася ў сярэднім да 4°, 7-га—зноў паднялася да 6—8° з тым, каб 8-9-га зьнізіцца да 3°, а 10-га,—падняцца да 6-7°. Самы цёплы дзень за дэкаду быў 2-га г. м., а самы халодны—8-га, калі ўначы паўсюды на тэрыторыі БССР тэмпэратура паветра стала ніжэй за нуль. У сярэднім за дэкаду тэмпэратуру паветра трэба лічыць нормальнай. Хмарнасьць за ўвесь час была пераменная. Ападкі выпадалі часта і далі паўсюды за адну гэтую дэкаду амаль палову агульнае іх колькасьці за месяц. 5-га і 6-га г. м. ў паўночнай палове БССР ішоў сьнег, але ён ня мог утрымацца дзякуючы таму, што сьледам за гэтым тэмпэратура паветра значна паднялася.

Пераходзячы да другой дэкады, трэба перш за ўсё адзначыць, што з самага пачатку яе вызначыліся зусім новыя ўмовы для ходу і

разьвіцьця дынамічных працэсаў атмосфэры. Прычынай гэтага было тое, што, з аднаго боку, значна зьнізілася актыўнасьць Азорскага, а з другога,—усё выразьней пачала выяўляцца роля азійскага максымуму. Апынуўшыся пры гэткіх умовах у зоне паніжанага ціску, Эўропэйскі контынэнт, а асабліва яго паўночная палова, зразумела, зрабіўся месцам, дзе ў значнай ступені павінна было адбывацца разьвіцьцё цыклёнічнае дзеяльнасьці і дзе, запраўды, увесь час разгортваліся і праходзілі цыклёны. З тае прычыны, што цыклёны праходзячы ахоплівалі і БССР (галоўным чынам сваёй паўднёваю часткаю), яны зьявіліся для яе галоўным фактарам, ад якога залежалі ход і зьмены надвор'я на працягу ўсёй дэкады. Частая зьмена вятроў, паступовае, з дня-ў-дзень зьніжэньне сярэдняе начадзеннае тэмпэратуры паветра (за выключэньнем 14 чысла), значная хмарнасьць, амаль штодзенныя ападкі—вось тыя бліжэйшыя вынікі для БССР, якія былі выкліканы ўтвораным станам барычнага рэльефу і абумоўленым ім ходам дынамічных працэсаў. Бесьперастанку зьніжаючыся на працягу ўсёй дэкады, сярэдняя начадзенная тэмпэратура паветра дасягла свайго мінімуму 20-га чысла, зьнізіўшыся ў сярэднім па БССР да 3-5° ніжэй за нуль. Гэта быў самы халодны дзень ня толькі за гэтую дэкаду, але і за ўвесь месяц. Сярэдняя за 2-ю дэкаду тэмпэратура паветра была ніжэй за нормальную на 4-5° Самая высокая тэмпэратура паветра за гэты час была зарэгістравана ў Горках (+10.5°), а самая нізкая—у Стукачове(—9,7°). Ападкі выпадалі амаль штодзенна, але кожны раз у нязначнай колькасьці. За час паміж 13-м і 26-м г. м. па ўсёй БССР ішоў сьнег. У некаторых месцах ён ляжаў пластам да 7 см. у таўшчыню на працягу тыдню. Але потым пачыналася цёплае надвор'е і паўсюды зганяла сьнег да рэшты.

Адносна трэцяй дэкады трэба сказаць, што яна пачалася рэзкаю зьменаю надвор'я, якая была выклікана ўзмацненьнем актыўнасьці азійскага максымуму. Ход дынамічных працэсаў атмосфэры за гэтую дэкаду ўвогуле быў гэткі. У самым пачатку яе ўтварылася моцнае ядро высокага ціску з цэнтрам ля заходніх берагоў Чорнага мора. Гэтае ядро, узмацняючыся, як відаць, за кошт азійскага максымуму, пачало потым хутка павялічвацца і пасоўвацца паступова на ўсход. 23-га кастрычніка яно дало вялікі грэбень высокага ціску на поўнач, удоўж палудзеньніку Растова на Доне, амаль да самых берагоў Белага мора. 26-га гэтае ядро, прасунуўшыся на поўнач, разгарнулася ў моцны контынэнтавы антыцыклён з цэнтрам у вышнявінах Уралу. Азначаны ход і разьвіцьцё дынамічных працэсаў атмосфэры і былі прычынаю таго, што на тэрыторыі БССР, якая апынулася пад уплывам заходніх схілаў зоны высокага ціску, вятры паступова пачалі зьмяняцца на паўднёвыя і паўднёва-ўсходнія, а адначасна з гэтым пачала падымацца і сярэдняя начадзенная тэмпэратура паветра. Тэмпэратура, бесьперастанку паднімаючыся, дасягла максымуму 25—27-га кастрычніка, дашоўшы ў сярэднім да +10°. У канцы месяца, каля 28-га чысла, памянёны вышэй антыцыклён пачаў паступова распадацца і адыходзіць на паўднёвы ўсход, даючы дарогу, удоўж паўночных берагоў Эўропэйскага контынэнту, моцнаму акіянічнаму цыклёну. Гэта прывяло да таго, што ў БССР пачалі паступова ўзмацняцца вятры заходніх румбаў, а начадзенная тэмпэратура паветра, пераважна ў паўночнай палове БССР, пачала паступова зьніжацца. Увогуле сярэдняя тэмпэратура паветра за дэкаду ўсё такі перавысіла норму на 1-2°. Ня гледзячы на значную хмарнасьць і значны лік дзён з ападкамі, апошніх за дэкаду выпа-

## МЭТЭОРОЛЁГІЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БССР ЗА КАСТРЫЧНІК 1925 г.

*паводле сярэдніх за дэкады і за месяц*

| №№ па парадку | Назовы станцый | Акруга | Ціск атмосфэры ў мілім. за месяц | Тэмпэратура паветра C⁰ | | | | | Сума ападкаў у мілім | | | | За месяц | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1-ая дэкада | 2-ая дэкада | 3-я дэкада | За месяц | Адхіленьні ад нормы | 1-ая дэкада | 2-ая дэкада | 3-я дэкада | За месяц | Адхіленьні ападкаў ад нормы ў %% | Лік дзён з ападкамі | Хмарнасьць | Пераважны кірунак ветру | Лік дзён з сьнегам. |
| 1 | Стукачова . . | Полацкая | — | 6,8 | 0,3 | 5,4 | 4,1 | —1,0 | 19,9 | 9,4 | 8,6 | 37,9 | —10 | 25 | 8,2 | SW,W | 11 |
| 2 | Новае-Каралёва . | Віцебская | 758,3 | 5,7 | —0,4 | 4,0 | 3,2 | —1,0 | 27,5 | 14,3 | 17,4 | 59,2 | +6 | 23 | 8,3 | W,S | 11 |
| 3 | Лускінопаль . | „ | | | | | | | 20,7 | 12,8 | 15,2 | 48,7 | —3 | 21 | | | 7 |
| 4 | Фатынь . . | „ | | | | | | | 20,4 | 14,6 | 14,6 | 49,6 | +8 | 21 | | | 8 |
| 5 | Горкі . . . | Аршанская | 759,1 | 6,3 | —0,1 | 4,5 | 3,6 | —1,3 | 21,4 | 8,6 | 32,4 | 62,4 | +52 | 17 | 8,0 | WSW,W | 9 |
| 6 | Магілеў . . | Магілеўская | 759,7 | 6,7 | 0,6 | 5,4 | 4,2 | —0,9 | 16,6 | 6,5 | 23,3 | 46,4 | —9 | 19 | 7,0 | WSW,WWW | 11 |
| 7 | Менск . . . | Менская | 760,4 | 7,0 | 0,5 | 6,6 | 4,8 | —0,5 | 17,8 | 14,0 | 7,1 | 38,9 | —15 | 20 | 7,3 | W,SW | 6 |
| 8 | Мар'іна-Горка . | „ | 759,5 | 6,7 | 1,2 | 7,4 | 5,2 | —0,1 | 19,7 | 14,1 | 6,1 | 39,9 | —3 | 24 | 7,2 | SSE,W | 7 |
| 9 | Турск . . . | Бабруйская | | 6,6 | 1,6 | 6,5 | 5,0 | —0,7 | 13,8 | 18,6 | 13,0 | 45,4 | —5 | 15 | 7,2 | W,SW | 3 |
| 10 | Салонае . . | „ | | | | | | | 16,8 | 16,9 | 13,5 | 47,2 | —2 | 16 | | | 4 |
| 11 | Андрэеўка . . | „ | | | | | | | 15,6 | 18,1 | 12,5 | 46,2 | —2 | 16 | | | |
| 12 | Прытыка . . | „ | | | | | | | 21,1 | 8,4 | 7,2 | 36,7 | —24 | 13 | | | |
| 13 | Жорнаўка . . | „ | | 7,0 | 1,5 | 7,2 | 5,3 | —0,2 | 23,0 | 10,0 | 7,5 | 40,5 | —12 | 21 | 6,9 | SE,SW | 4 |
| 14 | Капацэвічы . . | Слуцкая | | | | | | | 15,3 | 10,5 | 2,5 | 28,3 | —49 | 15 | | | 4 |
| 15 | Старобін . . | „ | | | | | | | 12,9 | 13,8 | 2,5 | 29,2 | —35 | 20 | | | 2 |
| 16 | Х. Морына . . | „ | | | | | | | 16,4 | 7,7 | 2,3 | 26,4 | —38 | 11 | | | 3 |
| 17 | Любань . . | „ | | | | | | | 20,6 | 11,1 | 2,8 | 34,5 | —28 | 13 | | | |
| 18 | В. Ніжын . . | „ | | | | | | | 17,9 | 13,3 | 7,1 | 38,3 | —20 | 13 | | | |
| 19 | Ямінск. . . | „ | | | | | | | 19,5 | 8,4 | 2,8 | 30,7 | —31 | 16 | | | |
| 20 | Морач. . . | „ | | | | | | | 15,4 | 16,2 | 3,0 | 34,6 | —23 | 26 | | | |
| 21 | Навадворцы. . | „ | | | | | | | 16,8 | 8,4 | 1,7 | 26,9 | —40 | 19 | | | 2 |
| 22 | Лучыцы . . | Мозырская | | | | | | | 19,0 | 20,7 | 15,4 | 55,1 | +2 | 19 | | | 5 |
| 23 | Птыч . . . | „ | | | | | | | 8,5 | 9,5 | 12,0 | 30,0 | | 13 | | | |
| 24 | Колкі . . . | „ | | | | | | | 15,5 | 7,8 | 15,1 | 38,4 | —2 | 9 | | | |
| 25 | Мар'іна . . | „ | | | | | | | 14,8 | 10,7 | 1,3 | 26,8 | —38 | 10 | | | |
| | Сярэднія па Беларускай ССР | — | 759,4 | 6,6 | 0,7 | 5,9 | 4,4 | —0,7 | 17,8 | 12,2 | 9,9 | 39,9 | —13 | 17 | 7,5 | SW,W | — |

ла менш за норму. Сьнег падаў толькі ў самым пачатку дэкады, але, як гаварылася ўжо раней, цёплае надвор'е хутка сагнала яго.

Увогуле і ў цэлым у вадносінах да стану надвор'я кастрычнік месяц трэба лічыць месяцам ня зусім спагадным для БССР. Ясных дзён было вельмі мала, большасьць было хмарных. Хмарнасьць перавысіла норму для кастрычніка. Ападкі—сьнег і дождж—выпадалі вельмі часта. Дзён без ападкаў было вельмі мала, усяго за месяц—каля 10. Выпадаючы кожны раз у нязначнай колькасьці, ападкі цалком паглыналіся глебаю. Наагул, па ўсёй БССР ападкаў выпала ня больш ад нормы, а ў акругах: Слуцкай, Мазырскай і часткаю Бабруйскай—нават значна менш за норму. Сярэдняя за месяц тэмпэратура паветра была ніжэй за нормальную амаль на 1°, прычым асабліва халоднай была сярэдзіна месяца. Марозных дзён за месяц было ня менш за 10. Тым ня менш мы маем пэўныя падставы лічыць, што неспагадныя атмосфэрныя ўмовы не зрабілі шкоднага ўплыву на рунь азімых, а толькі крыху затрымалі яе рост, галоўным чынам—у паўночных акругах. Аб гэтым сьведчаць і тэлеграфныя даныя ЦСУ на 15-е кастрычніка і 1-е лістапада. Гэтыя даныя паказваюць, што: 1) стан руні азімых у БССР за бягучы год наагул лепшы, чымся ў мінулым годзе; 2) стан гэты паступова паляпшаецца ў кірунку з поўначы на поўдзень і 3) у паўднёвых акругах (Мазырскай і Бабруйскай) стан руні вышэй за сярэдні, у цэнтральных—сярэдні і паўночных (Віцебскай, Барысаўскай і асабліва ў Полацкай)—трохі ніжэй за сярэдні.



# З матар'ялаў, прысланых у ЦБК краязнаўчымі організацыямі

М. Адзярыха

## Апісаньне Койданаўскага замку [1])

На адлегласьці вярсты ад ст. Койданава па М.-Б.-Б. чыгунцы ў кірунку на захад разьмясьцілася м-ка Койданава. Раскінулася яно на досыць высокіх узгорках у кірунку з поўначы на поўдзень. Між гэтых узгоркаў ледзь-ледзь сочыцца невялічкая рэчка-раўчучок, якую тутэйшыя насельнікі называюць Няцечкай. На паўночны бок ад станцыі, недалечка ад рэчкі, з правага яе боку, на высокім узгорку стаіць сьведка старадаўных дзён Беларусі—Койданаўскі замак. З паўднёвага боку ад яго, на адлегласьці 20—30 сажняў знаходзіцца стары каталіцкі касьцёл, дзе яшчэ ў сучасныя дні адбываецца набажэнства местачковых і аколічных каталікоў. Улева ад замку на такой-жа адлегласьці, як ад касьцёлу, сярод дзесятка бярозак, разьмешчаны старадаўныя кальвінскія могілкі, на якіх да нашых дзён захавалася некалькі скляпоў і помнікаў. Тут-жа пры могілках, крыху на захад, стаіць папоўскі дом, з усіх бакоў абкружаны густою зеленьню высокіх ліп, клёнаў, бярэзін і іншых дрэў. Усходнім сваім бокам замак упіраецца ў рэчку Няцечку, за якой раскіданы загоны местачковага сялянства. Заходні-ж бок замку з сваёю брамаю ўпіраецца ў Першамайскую вуліцу, па адным баку якой разьмешчаны сялянскія будынкі.

Увакол замак абнесены глыбокім у 8—10 сажняў ровам і высокім валам. Тутэйшыя сяляне апавядаюць, што калісь-та ў старадаўныя часы гэты роў быў увесь да берагоў запоўнены вадою. І толькі дзякуючы таму, што ў гэтым рове ўтапіўся ўлюбёны сын якогась князя, апошні прызваў бабу-ведзьму і загадаў ёй, каб яна вывела з рову ваду. Баба-ведзьма загаварыла ваду, і ў рове стала суха. На тым месцы, дзе ўтапіўся князеў сын стаў камень, які і да нашага часу знаходзіцца ў рове. На вале-ж вакол замку, ля самых сьцен, гойдаюцца розныя дрэвы. Тут ёсьць бярозы, клён, асіны, ліпы і сярод іх, „як важны пан“, разлажыўся вялізарны, у два з паловай абхваты, граб. Асабліва густа разьмешчаны дрэвы з паўднёвага боку. Калі глядзіш на замак ад каталіцкага касьцёлу, дык з-за дрэў нельга бачыць таго, што знаходзіцца ў сярэдзіне замку ці на яго паўночным баку. З заходняга боку, якраз супроць брамы, берагі рову злучаюцца між сабою земляным насыпам, дзякуючы якому толькі можна прабрацца ў сярэдзіну замку. Местачковыя насельнікі кажуць, што калісь даўно, у той час, калі роў быў запоўнены вадою, гэтага землянога насыпу ня было. Замест яго быў рухомы мост, па якім прабіраліся ў замак і назад.

---

[1]) З матар'ялаў экскурсіі членаў краязнаўчага гуртка Б.Д.У-ту, наладжанай 9 жніўня м. г.

Акрамя таго, што замак абнесены наўкола ровам і валам, для большай забясьпекі ад ворага, ён абнесены яшчэ каменнай сьцяною. Усіх сьцен у ім налічваецца дзесяць. Даўжыня іх неаднолькавая і, дзякуючы гэтаму, сьцены даюць замку форму няправільнага дзесяцікутніка. Усе сьцены змураваны з чырвонай цэглы, якая мае квадратовую форму, і ахварбаваны ў белы колер. Пры гэтым кожная з іх пакрыта зьверху гонтай. Але на аднэй з сьцен, што першая з правага боку ад брамы, знойдзена, што яна калісь-та была пакрыта ня гонтай, а дахоўкай (чарапіцай). Гэта наводзіць на думку аб тым, што ў старадаўныя часы ўсе сьцены замку пакрываліся зьверху ня гонтай, як яны пакрыты цяпер, а дахоўкай. Звычайная вышыня сьцяны дасягае аднаго сажня, а таўшчыня—паловы аршына. Пры гэтым трэба сказаць, што толькі тры сьцяны захаваліся ў поўным сваім відзе, рэшта зруйнованы местачковымі насельнікамі, якія разьбіраюць іх на чараны для печак.

У кожным з вуглоў сьцяны знаходзіцца вежа. Усіх іх налічваецца ў замку дзевяць. У водным з вуглоў знаходзіцца брама замку. Яна, як і сьцены, змурована з цэглы і высока ўзьнімаецца над імі. Толькі вароты брамы зроблены з дрэва і моцна ўмацованы да сьцен. На браме да сучаснага моманту захаваўся з надворнэга боку надпіс з словамі „Renou 1884“. Вежы маюць форму конуса і таксама, як сьцены, змураваны з цэглы і пакрыты ў сучасны момант гонтаю. У кожнай з веж ёсьць па шэсьць байніц: тры з іх, большыя ў дыямэтры, разьмешчаны ўнізе вежы, а тры, меншыя ў дыямэтры, знаходзяцца вышэй першых. Усе яны накірованы ў розныя бакі проціле жна ад цэнтру. Што датычыць сярэдзіны замку, яго ўнутранога выгляду, дык тут перш-наперш кідаецца ў вочы кальвінскі збор, дзьверы якога накірованы на захад. За ім, на адлегласьці пяці ці сямі крокаў, знаходзіцца жылы будынак, напэўна былы дом князёў, а ўлева, насупроць збору, разьмешчан хлеў.

Збор займае якраз цэнтр месца замкавага пляцу. Ён мае выгляд моцнай цаглянай будыніны і добра захаваўся да цаперашняга часу. Сьцены, страха і вокны засталіся цэлымі і непарушанымі. Толькі не хапае для паўнаты малюнку збору аднае яго вежы, якая высока ўзьнімалася над зборам. У 1921 годзе, як кажуць тутэйшыя сяляне, гэтая вежа збору зруйнована чырвонаармейцамі, якія складалі свае вайсковыя рэчы ў зборы. Разам з вежаю быў скінуты і гадзіньнік, які знаходзіўся ў вежы. Ад яго зараз засталося толькі два колы, якія знаходзяцца ў першай вежы, што з левага боку ад брамы замку. Гэты гадзіньнік да 1905 году паказваў правільны час і толькі пасьля 1905 г., дзякуючы адсутнасьці наглядальніка за ім, сапсаваўся.

У сярэдзіне зборавай вежы, з яе ўнутранога боку, як падаюць сяляне, была бляшка з надпісам на нямецкай мове. Кажуць, што гэты надпіс вызначаў дату рэмонту збору, а ўласна 1613 год.

Увесь збор складаецца як-бы з трох частак: першая частка—гэта пярэдняя прыбудоўка збору, другая—самы збор і трэцяя частка—задняя прыбудоўка збору. Кожная з гэтых пералічаных частак выразна адрозьніваецца адна ад аднае па форме сваёй пабудоўкі. Так, пярэдняя прыбудоўка высока ўзьнімаецца да верху ў параўнаньні з самым зборам і яго задняй прыбудоўкай. Пры гэтым яна складаецца як-бы з трох паверхаў, якія розьняцца між сабою па форме. Першыя два, што зьнізу, маюць чатырохсьценную форму, трэці—шасьцісьценную. Ня гледзячы на вялікую вышыню гэтай прыбудоўкі, яна займае не-

вялікую плошчу зямлі. Даўжыня яе—тры-чатыры аршыны, а шырыня—пяць-шэсьць аршын. У кожным з паверхаў пярэдняй прыбудоўкі ёсьць байніцы; колькасьць іх і дыямэтр неаднолькавы. У першым паверсе тры байніцы, накірованыя ў кірунку на захад, поўдзень і поўнач. Гэтыя байніцы самыя большыя па сваім дыямэтры. У другім паверсе толькі дзьве, невялічкага дыямэтру, байніцы, якія накірованы на поўдзень і поўнач.

Трэці паверх налічвае ў сабе восем, зусім невялічкага дыямэтру, байніц. З кожнага боку гэтага паверху іх ёсьць па некалькі.

Самы збор трохі нагадвае Менскі Залатагорскі каталіцкі касьцёл, што знаходзіцца па Савецкай вуліцы. Ён мае ўдоўж дзвацаць тры аршыны, а ўшыркі пятнаццаць аршын. Дах пастаўлены вельмі строма, а сьцены з бакоў маюць па тры цагляныя як-бы ўпоры, падобныя да шул ў хляве ці гумне. Гэтая частка збору, як і першая, мае байніцы. Толькі разьмешчаны яны з пэўных бакоў—гэта ў пярэдняй сьцяне з заходняга боку і ў задняй сьцяне з усходняга боку. У пярэдняй сьцяне дзьве байніцы—зьнізу большага дыямэтру і дзьве байніцы ўверсе сьцяны меншага дыямэтру. У сьцяне з усходняга боку ўсіх байніц налічваецца шэсьць. Яны разьмешчаны па ўзроўні страхі, паўз бакі апошняе, адна над другою. З іншых бакоў байніц у гэтай частцы збору няма.

Трэцяя і апошняя частка збору па форме сваёй пабудоўкі зусім розьніцца ад формы пабудоўкі першых дзьвёх частак збору. Адходзячы на два-тры аршыны ад самаго збору звычайнай сьцяною, яна зараз пач‹ынае загінацца ў сярэдзіну і сьпераду прымае шасьцігранную форму. Разьмер яе вышыні, а таксама плошчы меншы, як у першых частках збору. Дах прыбудоўкі спускаецца да нізу вельмі строма і зроблен, як і ў самым зборы, з гонты. Вокны збору ўва ўсіх яго частках, якіх налічваецца шаснаццаць, маюць форму дугі. Дзьверы збору, як надворныя, так і ўнутраныя, таксама такой формы, як вокны.

Унутраны бок збору, таксама як і надворны, падзяляецца на тры часткі. Першая частка—гэта ўваход у збор, другая—самы збор, дзе зьбіраліся для набажэнства, і трэцяя частка—аўтар.

Уваход нічога сабою цікаўнага не прадстаўляе. Гэта звычайны як-бы калідорчык, які мае квадратовую форму і зусім невялічкі. Ня тое прадстаўляе сабою самы збор. Тут перш за ўсё, калі толькі пераступіш парог, убачыш над сабою клірас. Над кліpасам у сьцяне, што ідзе ў кірунку на захад, ёсьць ход на званіцу і вышкі збору. Зараз гэты ход замурованы. Замуравалі яго, як кажуць сяляне, у 1921 годзе чырвонаармейцы, якія складалі ў зборы свой фураж і зброю. Да гэтага часу ён быў адчынены і можна вольна было прабрацца на званіцу і вышкі. Далей у зборы, на адлегласьці кроку ці двух ад кліраcу і на адлегласьці двух-трох крокаў ад бакоў-сьцен збору, знаходзяцца чатыры слупы, якія як-бы падпіраюць столь збору. Слупы маюць васьмікантовую форму і ў дыямэтры ня болей чвэрці аршына. Столь мае форму скляпеньня і пахварбавана, як і сьцены, у белы колер. Дзякуючы таму, што збор служыў для чырвонаармейцаў месцам складу збожжа і зброі, сьцены яго трохі паабіваны і вельмі забруджаны. Адгэтуль ніяк нельга заўважыць якіх-небудзь малюнкаў на сьценах, якія можа калі і былі на іх. Тут-жа ў сярэдзіне збору, пры левым баку сьцяны, у тым месцы, дзе сходзіцца частка самага збору з яго задняй прыбудоўкай, ці, іначай кажучы, аўтаром, знаходзіцца склеп, а з гэтага склепу ідуць тры падземныя хады ў розныя бакі. Сяляне ка-

жуць, што адзін з гэтых патаемных ходаў ідзе ў Менск, другі—у Несьвіж, а трэці—у Навасёлкі, што ляжаць на адлегласьці 5 вёрст ад м-ка Койданава. Адзін з гэтых ходаў праходзіць якраз пад брамай і пацьвярджаецца, кажуць сяляне, гэта тым, што калі пастукаць чым-небудзь цяжкім у месцы за брамай з надворнага боку замку, дык будзе чуцён падзямельны глухі гул, гул падзямельнай пустэчы.

У 1913 годзе, як апавядаюць сяляне м-ка, у Койданава, для агляду склепу прыяжджаў з Вільні біскуп кальвінскай царквы, які аб склепе даведаўся з старадаўных запісаў. Поўнасьцю даведацца аб тым, што знаходзілася ў склепе і яго ходах яму не ўдалося з прычыны таго, што калі адходзілі ад месца склепу па ходах на адлегласьць 20-30 крокаў, дык гасла сьвятло з-за недахвату паветра. У склепе ім было знойдзена толькі 75 дамавін, зусім струхнелых. Калі да іх дакрануліся, дык яны рассыпаліся, і толькі засталіся цэлымі шкілеты пахавных людзей. Гэтыя дамавіны, быццам, былі выключна дамавінамі памершых з роду Радзівілаў. Гэты-ж самы склеп быў адчынены і ў 1920 годзе чырвонаармейцамі. Імі таксама, як і біскупам, было знойдзена шмат чалавечых касьцей, параскіданых па склепе. Пасьля гэтага яны склеп замуравалі цэглай і такім ён застаецца да сёнешняга дня.

Дом, што знаходзіцца ў замку, разьмешчаны між дзьвёх сьцен і нават зьліваецца з імі так, што сьцяна дому служыць у гэты самы час і агароджаю замку. У ім ёсьць дзьве дзьверы: адна на ўсход, а другая на захад, а таксама тры пакоі з калідорам формы простакутніка. Як у калідоры, так і ў кожным пакоі знаходзяцца кахляныя грубкі. Частка з іх амаль што разбурана, асабліва на калідоры, а рэшта захавалася ў сваім старадаўным выглядзе. Вокны ў доме досыць вялікага разьмеру і разьмешчаны нізка пры зямлі з прычыны таго, што сам дом стаіць нізкавата ад зямлі. У доме ў сучасны момант разьмяшчаюцца сем'і, якія страшэнна нішчаць як замак у цэлым, так і дом, перарабляючы даўнейшыя пакоі і печы згодна свайму густу, на новыя.

Хлеў замку стаіць, прыпіраецца да дзьвёх сьцен агароджы замку, трэцяй і чацьвертай па ліку з левага боку брамы. Зроблены ён увесь з дрэва, пакрыты гонтаю і ледзь трымаецца. Бярвеньне павылузвалася з вуглоў і сьцен, і каб не сьцяна агароджы, на якую ён нахіліўся, дык будынак даўно-б ужо разваліўся. Толькі дзякуючы сьцяне ён захаваў свой выгляд да гэтага часу. Рэшта пляцу замка каля 50 кв. сажняў нічым не занята і пустуе.

Гэты вольны пляц замку, напэўна, некалькі дзесяткаў гадоў таму назад быў заняты якімі-небудзь будынкамі, але дзякуючы таму, што ня было належнага за імі догляду, яны зьнікалі. Каб ня здарылася гэта самае і з тымі будынкамі, а таксама з замкам у цэлым, якія захаваліся да сучаснага моманту, трэба ўсім тым, каму дарагі нашыя старадаўныя помнікі, зьвярнуць на замак належную ўвагу і паклапаціцца аб яго захаваньні, ня даць магчымасьці несьвядомым насельнікам яго руйнаваць. Навуковыя працаўнікі: гісторыкі, археолёгі, этнографы і мастакі павінны ўзяцца за яго дасканалае вывучэньне, бо пройдзе час, і гэты замак можа зьнікнуць і загінуць для навукі.

М. Каршукоў

# Пахаваньне стралы [1])

У сяле Стаўбуне Сьвяцілавіцкай воласьці Гомельскага павету ёсьць звычай пахаваньня стралы. Гэты звычай зьяўляецца заключным актам усяго вясновага цыклю звычаяў і песень.

Дзеля гэтага я апішу ў кароткіх рысах увесь гэты цыкль і застанаўлюся больш падрабязна на самым звычаі пахаваньня стралы.

Цыкль гэты пачынаецца з „стрэчаньня“ (грымніц) 15 лютага, калі, кажуць людзі, сустракаецца зіма з вясной. З гэтага дня дзяўчаты пачынаюць гукаць (клікаць) вясну.

Увечары ўсе вёскі зьвіняць ад песень:

„Вясна наша вясёлая—гу!
Разьвесяліла зямлю, ваду—гу!
Зямлю, ваду, мяне маладу—гу!
Молад малойчык па саду ходзе—гу!
Шчыпе красачкі за шапачку—гу!
Сваёй дзевачцы за кладачку—гу!“ і г. д.

Гукаюць вясну да 7 красавіка. З гэтага дня пачынаецца самая вясна, а з ёй новыя песьні і гульні. Пасьля палудню 7 красавіка ўсе дзяўчаты высыпаюць на вуліцу, і пабраўшыся за рукі, пачынаюць вадзіць карагоды.

„Вуліца мала—дзевак ні стала
Люлюшкі-люлі дзевак ні стала. (Прыпеў).
Дзевак ні стала ды ўсё за старымі (пр.)
Ды ўсе за старымі ды ўсе за малымі“ (пр.) і г. д.

Карагоды водзяць да ўшэсьця (40 дзень пасьля вялікадня) уключна. У гэты дзень дзяўчаты апошні раз водзяць карагоды. Павадзіўшы карагоды, яны бяруцца за рукі і доўгім шнурам цягнуцца за сяло ў жыта. Ідучы пяюць гэткія песьні:

(Песьні я запісваў па вымаўленьні).

**1 песьня.**

„А ідзі страла ды ўдоўж сяла
Охі-ой люлі ды ўдоўж сяла. (Прыпеў)
Ды ўдоўж сяла—упоперак вуліцы (пр.)
Ой ні бі страла добрага молайца (пр.)
Па том молайцу некаму плакаці (пр.)
Матка старынька, сястра малінька (пр.)
Жана малада кала горада (пр.)
Йдзе мамка плача, там рака цячэ (пр.)
Йдзе сястрычачка, там крынічачка (пр.)
Йдзе жана шэльма, там расы няма (пр.)“.

---

[1]) З матар'ялаў, прысланых у ЦБК Краязнаўчым гуртком пры БДУ.

**2 песьня.**

„Ў майго татачкі харашо жыці (пр.)
Двор над гарою—сад над ракою (пр.)
Пусьці татачка ў сад пагуляці (пр.)
Ні буду тваіх вішань шчыпаці (пр.)
Ходзь і вышчыпну вінаградачку (пр.)
Панясу татку на парадачку (пр.)
Парадзь татачка, парадзь родненькі (пр.)
Як з нялюбым жыць нелюбу наравіць (пр.)
Ходзь ні люб табе—заві любінькі (пр.)
Ходзь ні міл табе—заві мілінькі (пр.)
Заві мілінькі чарнабрывінькі (пр.)“.

З гэтымі песьнямі дзяўчаты прыходзяць у жыта. Там яны рассыпаюцца паасобку, і кожная, хаваючыся, зарывае (закапвае) ў зямлю якую-небудзь рэч—занізку (пацерку), пярсьцёнак, касьнік, тканку і інш. Часам за дзяўчатамі бегаюць хлопцы і шукаюць захаваныя рэчы. Вось гэта і называецца пахаваньнем стралы.

Цікава, што йдучы назад дзяўчаты ўжо не пяюць вясьняных песень. Пахаваньнем стралы канчаецца вясьняны цыкль. Пасьля гэтага пачынаецца граная нядзеля з сваімі песьнямі, а потым ужо пяюцца жніўныя песьні.

# Анкеты, праграмы і інструкцыі

**М. Мялешка**

## Апытальны ліст

### да зьбіраньня народных вераваньняў і прадстаўленьняў, зьвязаных з каменем, і вестак аб каменных помніках гісторыка-археолёгічнае значнасьці

1. Дзе сабраны весткі: акруга, раён, сельсавет, вёска.

2. Як тлумачыць народ зьяўленьне на зямлі каменьня: як даўно зьявілася каменьне, па якім выпадку, як гэта здарылася і да т. п. Запісаць аб гэтым народныя паданьні, прадстаўленьні і легенды.

3. Ці няма павер'яў, у якіх гаварылася-б, што камяні былі некаліcь жывымі; чаму яны перасталі жыць, расьці, чаму сярод іх ёсьць вялікія і малыя, моцныя і слабыя.

4. Ці былі калі і ці ёсьць цяпер у вашай мясцовасьці пачэсныя, цудоўныя камяні, за што іменна пачытаюцца, як сьвятыя. Якое здарэньне прывабіла да такіх камянёў увагу народу. Ці не завуцца камяні: Бабка, Сьцяпан, Барыс, Кравец, Шавец, або як інацай. Чым тлумачацца такія назвы. Ці вядомы вам такія камяні ў іншых месцах Беларусі і дзе іменна.

5. Які від пакланеньня і пачытаньня каменя быў першапачатковы, да асьвяшчэньня яго царквой. Сабраць і запісаць весткі, якія захаваліся ў народзе аб гэтым.

6. Які від пакланеньня і пачытаньня каменя застаўся пасьля высьвячэньня: цалуюць, ходзяць кругом яго на каленях, бяруць навалачкі, як сьвятога, і да т. п. З якой мэтай усё гэта робіцца і як. У якія дні сьвяткуе народ, зьбіраючыся да каменя. Як рыхтуюцца да гэтага сьвята і як праводзяць яго.

7. Ці няма ў полі ўрочышчаў званых „Зьмяіная магіла“, ці назвы падобнае да гэтай. Якія аб гэтым месцы захаваліся легенды. Ці ня зьвязана гэтая назва з каменем.

8. Калі камень ёсьць на „*прошчы*“, то апрача падрабязнага апісаньня каменя і зьбіраньня аб ім паданьняў, належыць сабраць весткі і аб самой *прошчы*: а) запісаць народныя паданьні, калі і пры якіх здарэньнях зьявілася *прошча*; б) указаць месца, дзе знаходзіцца *прошча*; в) што народам лічылася і лічыцца за сьвятыню на *прошчы*; г) якія паданьні ў народзе захаваліся аб цудах і выздараўленьні хворых ад помачы *прошчы*; д) ці ня верыць народ, што крыніца на *прошчы* выцякае з-пад скрытага ў зямлі каменя; е) у якіх формах выліваецца пачытаньне сьвятыні на *прошчы* і ў якія дні; ж) сабраць і запісаць аб *прошчы* падрабязна легенды, паданьні, народныя прадстаўленьні і да т. п. Калі ў вашай мясцовасьці няма *прошчы*, дзе на Беларусі вядомы вам *прошчы*.

9. Які надворны выгляд мае камень: падобны да чалавека, якой-небудзь жывёлы, да звона і інш. Ці форма прыроднага пахаджэньня, ці зроблена рукой чалавека і як выразна. Якой пароды камень, ці

ёсьць навокала яго такой самай пароды каменьне; стан каменя: парос мохам, выпятрыўся, разьбіты маланкай, патрэскаўся ад агню і да т. п. Якая велічыня яго: вышыня над зямлёй, таўшчыня, аб'ём, колькі прыблізна знаходзіцца каменя ў зямлі, колькі, прымерна, усяго масы ў камені.

10. Дзе такі камень знаходзіцца: на гарадзішчы, на старадаўных могілках, на кургане (капцы), пры возеры, рацэ, пры старой дарозе, у крыжавых дарогах, у вёсцы, у полі, на гары, у лесе і да т. п. Як завецца ўрочышча, дзе ляжыць гэткі камень.

11. Ці ёсьць абагаўлёныя камяні ў мясцовых яўрэяў, татар, цыган. Як яны адносяцца да камянёў, якія пачытаюцца беларусамі; якая розьніца між пачытаньнямі адных і другіх.

12. Як народ тлумачыў даўней і цяпер цудоўную моц, якой валадае камень: ці знаходзіцца ў камені нейкі дух, ці жыве гэтая моц каля каменя, ці адлучаецца ад каменя, і як гэта здараецца. Якія іншыя погляды вядомы ў народзе. Якія да гэтага захаваліся легенды і казкі.

13. Ці ёсьць цяпер і ці былі калі такія камяні, якія мелі здольнасьць да працы: шыў адзеньне, боты; як адбывалася гэтая праца: хто рабіў, як жыў, чым майстраваў. Падрабязна апісаць і сабраць самыя дробныя і рознастайныя весткі, датычныя да гэткага каменя і яго дзейнасьці.

14. Якія захаваліся ў народзе паданьні, легенды, казкі аб абярненьні ў камень. Што абярнулася ў камень, пры якім здарэньні і як гэта адбылося. Як да гэткага каменя адносіўся народ.

15. Ці не захаваліся паверʻі, што крыніцы, рэкі выцякаюць з-пад скрытага каменя. Які гэта камень: пракляты—калі, кім, за што; пачытаны і да т. п. Запісаць паданьні і легенды аб камені.

16. Якія ёсьць у народзе паданьні аб скрытых пад вялікімі камянямі грошах. Якія гэта грошы: заклятыя—кім, праз што; ці не хаваюць агнявыя зьмеі грошы пад каменьнем і да т. п.

17. Ці ня лічыцца патрэбным у ноч на купальле паліць вогнішча на камені. Ці не рабілі гэтага ў старыя часы, і чым гэта тлумачаць.

18. Ці ня зьвязвае беларус у сваіх прадстаўленьнях каменя з высокімі гарамі, гор—з хмарамі. Ці не захавалася дзе такога паданьня, па якім сьв. Ільля (ці хто другі) разьбівае горы маланкай. Запісаць гэтыя паданьні поўнасьцю.

19. Якія камяні ў якіх выпадках, ад якіх хвароб і ў якім відзе прымяняюцца ў народных леках. У якіх формах адбываецца лячэньне, якія пры гэтым гаворацца замовы, малітвы і асобныя словы. Чым тлумачыцца, калі ўжытае зельле ад каменя горай шкодзіць. Аб усім зрабіць падрабязныя запісы.

20. Ці ня ўжываюцца на лекі каралі—пацеркі, як гэта адбываецца, ад якіх хвароб. Якія яшчэ дарагія купленыя камяні ўжываюцца на лекі.

21. Якія ў народзе засталіся паверʻі аб знойдзеных крамнёвых стрэлах (пяруновых), каменных малатках і інш. прыладах каменнага веку. Ці ня лічыліся такія камяні сьвяшчэннымі, ці ня фігуруюць у вабрадавым і рэлігійным жыцьці: дзе такія камяні знойдзены і ці захаваліся да гэтых часоў.

22. Ці ня былі калі і ці не знаходзяцца яшчэ і цяпер надмагільныя курганы, зложаныя з каменя, або абложаныя па ўсім насыпе каменьнем. Колькі такіх курганоў, якая іх форма. Ці ня было на версе такой крушні большага каменя з якімі-небудзь знакамі. Якія паверʻі

і паданьні засталіся пра гэткія капцы. Калі яны былі зьнішчаны—запісаць аб іх весткі, распытаўшы старых людзей.

23. Ці не траплялiся старыя магілы, вылажаныя каменем у сярэдзіне, каля сьцен і на дне, або камяні пастаўленыя ў галаве нябожчыкаў, у нагах; ці не абложаны звычайныя курганы ўнізе каменьнем; якой велічыні каменьне; мясцовыя ці прывезенымі з другога месца, як разложаны. Калі такія курганы былі зьнішчаны,—сабраць аб іх весткі. Ці ня кідаюць пры пахаваньні ў магілу каменьне.

24. Што зьвязвае народнае прадстаўленьне з каменем, калі камень кладзецца на магілу. Запісаць падрабязна абрады, назвы абрадавых дзеяў і народныя вераваньні ў гэтым выпадку.

25. Ці ёсьць вёскі, сёлы, рэчкі, азёры, урочышчы ў полі і да т. п., якія маюць назву ад каменя: Каменка, Камянец, Каменны кут і да т. п. Чым тлумачыць народ такія назвы. Пералічыць усе такія назвы з тлумачэньнямі да іх.

26. Запісаць народныя песьні, казкі, прыказкі, у якіх упамінаецца камень.

27. Якія сустракаюцца на камянёх выбітыя знакі: ступня нагі, рука, тапор, нажнічкі, піла, зброя і інш. Кожны такі камень належыць апісаць асобна і зрысаваць знакі, як паказана ў п. 35. Якія пра іх захаваліся паданьні. Дабавіць весткі па п. п. 9 і 10.

28. Якія вядомы ў вашай мясцовасьці каменныя крыжы, альбо камяні з адбітымі на іх крыжамі, ці няма на іх якіх знакаў, літар, лічбаў. Што пра іх кажуць старыя людзі. Дабавіць аб іх весткі па п. п. 9 і 10.

29. Што прымушала людзей ставіць каменныя крыжы пры вёсках, пры дарогах, на раздарожжы і да т. п. Ці ня ставіліся крыжы як паказчыкі дарогі, на месцы зьяўленьня нячыстай сілы, цудаў. Якія паданьні аб гэтым захаваліся ў народзе.

30. Ці няма старасьвецкіх могілак з каменнымі крыжамі, плітамі з надпісамі і другіх каменных помнікаў. Ці не называюць каменныя крыжы на могілках „жальнікамі“. Ці спатыкаецца ў народзе слова „жальнік“ і што пад гэтым словам трэба разумець.

31. Ці няма якіх ведаў, мо‘ чулі старыя людзі, каб пры разьмежаваньні зямель царкоўных, манастырскіх і іншых на межах, капцох клаліся камяні і выбівалася на іх крыжы, ці іншыя знакі.

32. Ці ёсьць у вашай мясцовасьці царковішчы (дзе былі даўней цэрквы) і ці не засталіся на іх камяні з крыжамі, надпісамі і знакамі. Ці не захаваліся ў царкве або ў касьцеле ў сярэдзіне, ці не ўмураваны ў падмуроўку камяні або пліты з надпісамі, знакамі і да т. п. Запісаць аб усім гэтым паасобна падрабязныя весткі.

33. Аб надпісах на камені належыць зазначыць: ці выраўнена месца для надпісу на камені штучна, ці надпіс зроблен на прыроднай паверхні каменя. Ці можна пазнаць, якой прыладай (жалезнай, каменнай выраўнены камень і зроблены надпісы). Чым гэта тлумачыцца.

34. Якім альфабэтам зроблены надпісы. Ці можна іх разабраць. На якой мове. Ці ёсьць дата і якімі лічбамі вызначана (рымскімі, славянскімі, арабскімі). Ці добра захаваліся надпісы. Ці надпіс высечаны жалабком (поўкруглым, кантавым) або рэльефна вылучаецца на паверхні каменя. Дадаць тэкст надпісу ў такім распалажэньні, як ён знаходзіцца на камені.

35. Сфотографаваць або зарысаваць помнік, больш выдатны з двох бакоў, дакладна да найменшай драбніцы зрысаваць надпісы, вымераць

літары—глыбіню і шырыню, асабліва незразумелых надпісаў. Надпісы зрысаваць ува ўсю іх велічыню. Да ўсіх такіх камянёў дадаць весткі па п. п. 9 і 10.

36. Калі памянёныя ў гэтай анкеце камяні былі ды зьніклі або перавезены ў іншае месца, то запісаць: калі, пры якіх умовах і чаму перамешчаны. Сабраць зьвязаныя з такім каменем вераваньні, паданьні, распытацца, якія на камені былі надпісы, знакі і інш.

37. Пры апісаньні ня ўпускаць з віду самых нязначных драбніц, бо яны часта бываюць каштоўнымі паказчыкамі таго ці іншага зьявішча. Калі ў мясцовасьці некалькі каменных помнікаў, то запісаць асобна кожны. Калі камень знаходзіцца ў другой мясцовасьці, паведаміце дзе і што вам аб ім вядома.

38. Адмеціць і напісаць, што прапушчана гэтай анкетай. Запісы рабіць належыць выразна на асобным аркушы паперы, не зьвяртаючы ўвагі на форму і разьмер. Усе назвы і паданьні запісаць дакладна, як пераказвае іх народ з захаваньнем мясцовай гаворкі. Адмеціць дзе, калі і ад каго напісана паданьне. Калі помнік, які апісваецца, упамінаецца ў друку, адмеціць, дзе іменна.

39. Запісаныя веды высылаюць бяз марак па адрэсу: Менск, Рэволюцыйная 21, Інбелкульт; паказаць хто рабіў запісы і свой адрэс.

---

# Інструкцыя да зьбіраньня беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл

*(Апрацована зоолёгічнай падсэкцыяй Прыродазнаўчае сэкцыі Інбелкульту)*

1. Зьбіраючы тэрмінолёгічныя матар'ялы па анатоміі жывёл, трэба запісваць памагчымасьці ўсе народныя назовы асобных частак цела тэй ці іншай жывёлы. Напрыклад, даючы тэрмінолёгію па анатоміі каня, трэба назваць як знадворныя, так і ўнутарныя органы яго: галава, шыя, гагазіца (холка), грыва, чолка, вочы, зубы: секачы (резцы), клыкі, акрайкі, малочныя й пастаянныя, губы, ноздры, жывот, хвост, корань хваста, бронхі, лёгкія, сэрца, печань, ныркі (почкі) і г. д.

2. Запісваючы слова, трэба паказаць націск (напр.: „кіньдз*ю*к", „хрыб*е*т" і г. д.); да кожнага слова трэба дадаваць прыклад.

3. На кожнае народнае слова абавязкова трэба скласьці асобную картку ў $1/16$ звычайнага аркушу паперы, такога выгляду (гл. інструкцыю да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў бел. мове.—„Н. К." № 1 ст. 49):

1. Беларускае слова ........................................................

(напішэце, як чуецца, з націскам).

2. Дакладны яго пераклад на расійскую або польскую мову ........................................................

3. Лацінскае слова ........................................................

4. Прыклад, у якім чулі слова ........................................................

........................................................

5. Месца запісу і прозьвішча запісчыка.

*Увага*: 1. На картцы можна пісаць толькі № адказу (ад 1—5) і самы адказ, ня пішучы на кожнай картцы слоў: „беларускае слова" і г. д.

2. Калі лацінскага назову ня ведаюць, яго можна прапусьціць.

3. Калі мясцовыя назовы будуць запісаны ў анкеце або на рысунку, на іх усё роўна трэба складаць асобныя карткі.

## Анкета

1. *Сысун* (млекопитающее). Як завуцца ўсе паказаныя на малюнку органы труса або парсюка ці яшчэ якога сысуна самца і саміцы; косткі, зубы, асобныя страўныя (пищеварительные) органы траваедных („сычуг, кніжка, рубец, сетка“), часткі конскага і кароўяга капыта, асобныя мясені (цягніцы або мускулы), жылы, нэрвы, часткі мазгоў і г. д.




Рыс. № 1. Самка кролика.

2. *Птушка.* Органы цела паказанага на рысунку голуба (самца і саміцы) ці куры і пеўня; асобныя пер'і, часткі пяра, косткі, балонка („перепонка на ногах утки“) і г. д.




Рис. № 2. Голубь.

3. *Гад.* Органы гадзюкі (зуб, з якога яна выпушчае атруту) або вужа, яшчаркі, чарапахі і інш. Луска (чешуя) і г. д.

4. *Вадаземнік.* Органы, напрыклад, жабы або рапухі ці трытона і інш.

5. *Рыба.* Усе паказаныя на рысунку органы акуня або яшчэ якое рыбы,—косткі, луска, зябры, перкі і г. д.




Рис. № 3. Окунь.

6. *Конік.* Часткі цела зялёнага коніка



Рис. № 4. Зеленый Кузнечик.

7. *Пчала.* Органы, паказаныя на рысунку: валаскі ног і ніжняга боку брушка, што завуцца зьбіральнымі апаратамі (собирательными аппаратами) і служаць для зьбіраньня пылку з кветак. Матка, труцень, рабочая; органы, якія іх адрозьніваюць.

Памагчымасьці дайце больш матар'ялу з пчалярскае тэрмінолёгіі.




Рис. № 5. Пчела.

8. *Матыль.* Хабаток, ніжняя губа з невялічкімі членістымі мацкамі (шчупікамі) і г. д. Вусень („личинка“), яе грудныя ногі, брушныя (ложныя) ногі. „Куколка“, капшучок („кокон“).

9. *Жук.* Ротавыя органы хрушча, пярэднія крыльцы (надкрыльлі) заднія (мяккія) крыльцы, ножкі, часткі ножак („тазик, бедро, голень, лапка, ноготок“) і г. д.




Рис. № 6. Речной рак.

10. *Павук.* Галавагрудка, павучыньневыя бародаўкі (звычайна тры пары ззаду на брушку), рухавы пазурок, што знаходзіцца часам на верхняй сківіцы, або шчэлепе („челюсти“) самцоў, і г. д.

11. *Рак.* Органы, паказаныя на рысунку (гл. ст. 52): панцыр або шчыт рака, вусікі („сяжки“), дзьве пары сківіц або шчэлепаў (пярэднія або верхнія, так званыя, „жвалы“ і ніжнія), ногі грудныя, нагашчэлепы (ногочелюсти), часткі ног і кляшні, зябры, вочы (парныя і няпарныя) і г. д.

12. *Мяккун.* Органы сьлімака, паказаныя на рысунку. Смоўж, начовакі (беззубка). Пласткаватыя зябры пласткаватыя мацкі („щупальцы“), брушная частка цела, выцягнутая ў „нагу“, мантыя. Бруханогі (балацянік), яго чарапашына (ракавіна), мантыя, мацкі („щупальцы“) і г. д.




Рис. 7. Садовая улитка.

13. *Піяўка.* Прысоскі, членікі піяўкі, ліняньне (зьмена скуры), сківіцы (шчэлепы), зубчыкі і інш. органы.

Чарвяк-дажджавік: членікі, паясок („группа члеников, вырабатывающих слизь для яйцезого кокона“), шчацінкі.

Солітэр, крупкі („финны“)—галоўка, хабаток, кручочкі, прысоскі і г. д.

Рабак (Ascaris).

*Увага.* Добра, калі будуць запісаны ня толькі паказаныя ў анкеце назовы, а памагчымасьці ўсе народныя словы, што адносяцца да анатоміі жывёл.

---

# ХРОНІКА

## У Інбелкульце

### Сэкцыя па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі

У лістападзе 1925 г. былая камісія па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі рэорганізавана ў сэкцыю Інбелкульту. На першых організацыйных сходах новае сэкцыі абраны прэзыдыум у складзе: З. Жылуновіча (старшыня), Б. Аршанскага, Віткоўскага, М. Мялешкі і І. Барашкі.

Прэзыдыум распрацаваў плян працы на бягучы акадэмічны год. Згодна гэтаму пляну сэкцыя мае выдаць у першую чаргу зборнік: „Проклямацыі соцыялістычных партый і організацый на Беларусі ў 1905 г.“, уложаны М. Мялешкам з прадмовай З. Жылуновіча. Падрыхтован і другі зборнік, прысьвечаны памяці А. Бурбіса.

Распрацованы тэмы для працы членаў сэкцыі, абмяркована пытаньне аб складаньні біографічнага слоўніка беларускіх рэволюцыянэраў і намечан шэраг іншых пытаньняў, над якімі мае працаваць сэкцыя на працягу году.

Сярод дакладаў, прачытаных членамі сэкцыі, зьвяртае на сябе ўвагу даклад т. Жылуновіча аб работніцкім руху на Беларусі ў 1905 г. і аб разьвіцьці гэтага руху з 90-х гадоў мінулага веку. Гэты даклад чытаўся 2 студзеня 1926 г.

### Гістарычна - Археолёгічная Камісія

Гістарычна-Археолёгічная Камісія ІБК, адчыненая ў кастрычніку 1925 г. ў складзе старшыні проф. М. В. Даўнар-Запольскага і Навуковага Сакратара З. І. Даўгялы, у хуткім часе пашырылася, прычым у склад яе ўвашлі В. І. Пічэта, В. Д. Дружчыц, М. В. Мялешка, І. А. Сербаў, Н. В. Харламповіч, А. М. Ляўданскі. З паловы лістапада пры Камісіі ўтворана падкамісія па вывучэньні старога Менску з запрашэньнем у яе склад т. т. А. М. Панова, А. А. Сьцяпуржынскага, П. К. Маразэвіча, А. Л. Аніхоўскага. У працах Камісіі прымаюць удзел 5 студэнтаў Б. Д. У.

Дзейнасьць Камісіі дзеліцца на організацыйную і навукова-дасьледчую.

На організацыйных пасяджэньнях апрацован агульны плян працы на 1925-26 акадэмічны год і потым дэталёва абгавораны паасобныя пытаньні, зьвязаныя з намечанай працай.

Плян працы такі: а) падрыхтоўка да выданьня і друкаваньне тому матар'ялаў да гісторыі Беларусі; б) выданьне друкаванага зборніку навуковых прац Камісіі; в) апрацоўка археолёгічнае карты Беларусі; г) археолёгічныя дасьледваньні ў БССР; д) апрацоўка крынічных падручнікаў для студэнтаў унівэрсытэту і пэдтэхнікумаў па гісторыі Беларусі; е) распрацоўка гісторыі Менску; ж) складаньне патрэбных для гістарычных прац слоўнікаў: актавай мовы, географічнага, гістарычна-археолёгічнага.

Разам з гэтым Камісіяй быў праведзены шэраг навуковых пасяджэньняў: а) у сувязі з падрыхтоўкай вызначаных да выданьня матар'ялаў; б) па азнаямленьні з гістарычнай замежнай літаратурай і в) па вывучэньні старога Менску.

Камісія мела 27 пасяджэньняў.

Рэальныя дасягненьні Камісіі ў навуковай працы наступныя. Прагледжан і падрыхтован да друку том матар'ялаў да гісторыі Беларусі, да кожнага дакуманту зроблен належны скарочаны зьмест, устаноўлены даты, дакуманты спарадкаваны ў хронолёгічнай чарзе. Том гэты аддадзены ў друк. У гэты том увойдуць дакуманты з часоў Жыгімонта 2-га з Кракаўскага архіву Чартарыйскіх (1542—1566 г. г.), дакуманты да гісторыі г. Магілева за XVI і XVII в. з магілеўскіх архіваў і скарбовыя дакуманты XVII ст. з варшаўскіх архіваў. Затым падрыхтованы да выданьня ў навуковым зборніку Камісіі працы членаў Камісіі. Апрача гэтага падрыхтованы да друку падручнікі для сэмінарыяў: рас. летапісы (Краскоўскі), беларускія летапісы (Даўгяла), агульна-дзяржаўныя прывілеі Беларусі (Даўнар-Запольскі), прывілеі на Майдэборскае права (Дружчыц), прывілеі цэхаў (Пічэта). У канцы Камісіяй апрацованы плян адчыненьня пры Унівэрсытэце архіўных курсаў; высьветлена пытаньне аб утварэньні пры ІБК ячэйкі па славяназнаўству; аб выданьні на замежных мовах кніг па БССР і аб пашырэньні скарбаў Дзяржаўнага Музэю і Бібліотэкі дублетамі, забранымі з Беларусі ў Музэі і Бібліотэкі РСФСР.

Падкамісіяй па старому Менску высьветлены крыніцы, якія падлягаюць вывучэньню, прагледжаны друкаваныя матар'ялы да гісторыі Менску (Паноў, Сьцяпуржынскі, Маразэвіч) і зроблены плян старога Менску (Аніхоўскі); праведзен падлік курганоў і гарадзішчаў навокала Менску (Сербаў і студэнты), прагледжана частка рукапіснага матар'ялу ў Менскім Цэнтрархіве і зроблены выпіскі па топографіі і гісторыі Менску (Даўгяла); кожнаму члену падкамісіі па вывучэньні старога Менску вызначана асобная тэма з мэтаю ўсебаковае распрацоўкі.

**З. Даўгяла**.

## У літаратурнай камісіі

Літаратурная Камісія Інбелкульту займаецца падрыхтоўкай да акадэмічнага выданьня твораў беларускіх пісьменьнікаў. У першую чаргу будуць выдадзены творы М. Багдановіча.

У лістападзе 1925 г. Старшынёю Літ. Камісіі проф. Унівэрсытэту Ів. Ів. Замоціным на агульным сходзе Літ. Сэкцыі быў зачытаны даклад на тэмы: „Літ. Камісія Інбелкульту ў процэсе працы над зборам твораў М. Багдановіча. Падрахункі і пэрспэктывы“.

На гэтым сходзе была вынесена пастанова—друкаваць усе творы Багдановіча сучаснай ортографіяй і зазначыць у іх яўныя русіцызмы і полёнізмы. Дзеля гэтага ў працягу мінулага сьнежня Камісія вяла працу па выпраўленьні тэксту і ортографіі вершаў поэты і побач з тым зазначала ў іх чужаземныя словы.

У выніку гэтае працы падрыхтоўка першага тому твораў М. Багдановіча Камісіяй у бліжэйшы час будзе скончана.

У гэтым томе Камісія мае на мэце зьмясьціць каля 300 вершаў поэты; сярод іх налічваецца больш за 100 вершаў, нідзе ня выдрукаваных, ня лічачы адрыўкаў і чарнавых накідаў. Апроч вершаў у першы том увойдуць прадмова і нататкі да гісторыі тэксту.

Да другога тому сабрана матар'ялу прыблізна на 15 друкаваных аркушоў. У склад яго ўвойдуць два разьдзелы: „прыгожае пісьменства“ і артыкулы нябожчыка. Сярод апавяданьняў знаходзіцца 7 яшчэ ня быўшых у друку: 3 закончаных і 4 адрыўкі. Артыкулы падзелены на групы: з гісторыі беларускага грамадзянства, з гісторыі беларускае літаратуры, крытычныя нарысы і этюды, артыкулы па гісторыі і этнографіі славянства, на соцыолёгічныя тэмы, розныя рэцэнзіі і нататкі.

Трэці том, па думцы Камісіі, павінен зьмясьціць у сабе лісты поэты,

біографічныя і, калі мажліва, крытычныя матар'ялы аб поэце. Пакуль што для апошняга тому сабрана матар'ялу прыблізна на 8—10 друк. аркушаў.

Літ. Камісіі стала вядома, што М. Багдановічам была напісана поэма „Каханьне і Сьмерць", якая разам з некаторымі яго лістамі захоўваецца ў архівах Заходняе Беларусі. На жаль, ніякіх сьлядоў аб гэтым цікаўным творы ні ў Літ. Камісіі, ні ў бацькі поэты не знаходзіцца. З гэтае прычыны і наагул для папаўненьня сабраньня твораў нашых пісьменьнікаў Камісіяю зроблены крокі шляхам звароту да грам. Тарашкевіча, Ластоўскага, А. Луцкевіча да перасылкі з заходня-беларускіх архіваў у ІБК адпаведных матар'ялаў.

Апроч таго, Літ. Камісія падрыхтоўвае да выданьня творы А. Гаруна і Цёткі.

З таварышамі А. Гаруна па Сібіры, у якіх захаваліся лісты пісьменьніка, Камісія распачала перапіску аб прысылцы іх у ІБК.

Зьбіраньне і перапіска вершаў А. Гаруна з пэрыодычных выданьняў у лістападзе і сьнежні мінулага году вялася т. М. Ю. Дуброўскім згодна ўкладзенай Камісіяй інструкцыі.

Зьбіраньне і перапіска твораў Цёткі вядзецца пад даглядам Ю. Я. Бібіла.

У Камісію ўвесь час зварачваюцца корэспондэнты з рознымі пытаньнямі, галоўным чынам, адносна зьбіраньня твораў народнае творчасьці. Камісіяй даваліся тлумачэньні як у вуснай, так і пісоўнай форме. Каб дапамагчы ў справе зьбіраньня народнае творчасьці, Камісіяю ўкладзена адпаведная програма, якая надрукавана ў № 2-3 часопісу „Наш Край" і паасобнай брошурай.

Камісія клапацілася аб далейшым зьбіраньні аўтографаў беларускіх пісьменьнікаў. З паступіўшых у Камісію матар'ялаў вызначаюцца аўтографы Ів. Насовіча і прысланыя з Віцебску т. Касьпяровічам аўтографы А. Гаруна ў асобным сшытку, уласная папка Ядвігіна Ш. з рознымі лістамі на паасобных аркушах і 5 зьнімкаў, сярод якіх ёсьць зьнімак А. Гаруна; артыкул М. Багдановіча „Забыты шлях" з шасьцю яго вершамі і інш.

## Бібліографічная Камісія ІБК

Бібліографічная Камісія ІБК мае сваім асноўным заданьнем складаньне супольна з Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкаю поўнае рукапіснае картотэкі па беларускай бібліографіі, рэдагаваньне і выданьне яе, як у вагульных працах ІБК, гэтак сама і асобна. Пры Бібліогр. Камісіі ёсьць картотэка па беларускай бібліографіі, якая зьмяшчаецца ў памяшканьні беларускага аддзелу Дзяржаўнае Бібліотэкі. Картотэка налічвае болей 34.000 картак. Прыгатавана да друку бібліографія беларускіх выданьняў, па этнографіі, па вытворчых сілах краіны, па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі і гісторыі беларускага тэатру. Распрацована болей 60 бібліографічных паказьнікаў, перагледжана каля 100 назваў розных часопісаў. Вынесены на карткі артыкулы з усіх беларускіх газэт і часопісаў, якія знашліся ў Дзяржаўнай Бібліотэцы.

*Бібліографічная Камісія прапануе ўсім краязнаўчым організацыям і асобам зьвяртацца за даведкамі бібліографічнага характару па адрэсу: Менск, Дзяржаўная Бібліотэка, Беларускі Аддзел або—Менск, Рэволюцыйная 21, Бібліографічная Камісія.*

## У Яўрэйскім Аддзеле

У канцы кастрычніка 1925 г. пры Яўрэйскім Аддзеле Інбелкульту была ўтворана Камісія па вывучэньні дэмографіі і статыстыкі яўрэйскае людасьці Беларусі. У першую чаргу Камісія задалася мэтай вывучыць экономічныя і соцыяльныя зьмены яўрэйскае людасьці, якія адбыліся пад уплывам рэволюцыі, на аснове статыстычных матар'ялаў цэнтральных

і мясцовых установ (ЦСУ, Дзяржплян, Камісарыяты і іх мясцовыя органы і г. д.). У склад Камісіі ўвашлі т.т. Г. Аляксандраў, Л. Вагер, І. Угорскі, А. Шэйнін і інш., сакратар—Г. Аляксандраў.

У бліжэйшы час намечана абсьледваньне бюджэтаў яўрэя-селяніна і яўрэя-работніка ў Беларусі. Гэтая праца даручана т.т. Папялышку і Вагеру.

Пачалося таксама азнаямленьне з матар' яламі рэгістрацыіі яўрэйскай местачковай людпасьці.

### Бібліотэка Інбелкульту

Бібліотэка пры Інбелкульце ў сучасны момант налічвае каля 12000 тамоў розных выданьняў, пераважна па гісторыі, этнографіі, філёлёгіі і соцыолёгіі і складаецца з аддзелаў: агульнага, беларускага, яўрэйскага, польскага, украінскага, аддзелу старадрукаў і рукапісаў. Організуюцца аддзелы па пытаньнях Марксызму і Навуковай Організацыі Працы (НОП).

Галоўным заданьнем Бібліотэкі зьяўляецца абслугоўваньне акадэмічнае працы сэкцый і камісій ІБК. Разам з пашырэньнем дзейнасьці сэкцый і камісій ідзе папаўненьне Бібліотэкі навуковымі выданьнямі. Так, у вапошнія часы Бібліотэка папоўнілася польскімі выданьнямі, набытымі ў Кракаве, Пазнані, Львове і Варшаве, а таксама і яўрэйскімі кнігамі, выданымі ў Варшаве, Бэрліне, Нью-Ёрку і Ерузалеме. Беларускі аддзел паступова папаўняецца ўсімі выданьнямі, якія выходзяць з друку на Беларусі.

Асноўны фонд Бібліотэкі ІБК складаюць набытыя бібліотэкі вядомых вучоных і пісьменьнікаў: Янкі Купалы, Грота і інш.

## Першы зьезд дасьледчыкаў беларускае археолёгіі і археографіі

17-18 студзеня 1926 году ў Менску адбыўся скліканы Інбелкультам першы зьезд дасьледчыкаў беларускае археолёгіі і археографіі.

У працах зьезду прымала ўдзел 26 членаў з рашучым голасам і 8 з дарадчым.

*На першым пасяджэньні* ў нядзелю 17 студзеня раніцай былі заслуханы даклады:

1) З. Даўгяла—Значэньне Літоўскае Мэтрыкі, як крыніцы беларускае гісторыі;

2) В. Дружчыц—Назва Літоўскае Мэтрыкі і яе мова;

3) Проф. М. Даўнар-Запольскі—Аб старых беларускіх архівах, якія знаходзяцца за межамі СССР;

4) А. Ляўданскі—Аб беларускіх гарадзішчах. (Даклад быў багата ілюстраваны плянамі 350 абсьледваных гарадзішчаў).

*На другім пасяджэньні*—у нядзелю 17 студзеня ўвечары былі зачытаны даклады:

1) І. Сербаў.—Аб археолёгічных дасьледваньнях у Нова-Быхаўскім раёне і на сярэднім Сажы ўлетку 1925 г. (дакладчык дэмонстраваў багатыя колекцыі знаходак);

2) Проф. М. Даўнар-Запольскі—Аб старых беларускіх архівах у межах РСФСР.

*У панядзелак а 6-ай гадзіне* ўвечары адбылося трэцяе пасяджэньне, на якім былі заслуханы даклады:

1. Ц. Зьмітраў — Аб смаленскіх архівах;

2. А. Ясенеў.—Аб віцебскіх архівах;

3. М. Мялешка—Архіўныя дасягненьні ў БССР;

4. П. Харламповіч — Аб Менскім Дзяржаўным Музэі;

5. Я. Васілевіч Віцебскі Музэй;

6. Н. Палікарповіч — Аб дасьледваньнях стаянак першабытнага чалавека ў нізавіне Сажа;

7. Я. Сіманоўскі—Старыя беларускія бібліотэкі, вывезеныя за межы Беларусі;

8. А. Сьпіцын—Вынікі археолёгічных досьледаў на тэрыторыі Беларусі да сучаснага моманту.

Зьезд зачынены аб 11 гадзіне 18 студзеня. Вынесены зьездам наступныя рэзолюцыі:

### 1. Аб Літоўскай Мэтрыцы

Заслухаўшы даклады аб Беларускім архіўным фондзе, так званай Літоўскай Мэтрыцы, зьезд дасьледчыкаў беларускае археолёгіі і археографіі пастанавіў:

1. Давясьці да ведама ўраду БССР аб неабходнасьці захаваньня Літоўскае Мэтрыкі ў межах СССР, бо яна зьяўляецца гістарычнай уласнасьцю працоўных Беларусі.

2. Прымаючы пад увагу, што вывучэньне і распрацоўка даных аб мінулым Беларусі бязумоўна немагчыма бяз сталага і непасрэднага карыстаньня Літоўскай Мэтрыкай, як выключнай па зьместу і багацьцю гістарычных фактаў крыніцай,—зьезд лічыць неабходным як найхутчэй перавесьці архіўны фонд Мэтрыкі Літоўскае ў БССР, на што ёсьць прынцыповая згода належных установ РСФСР.

3. Разам з гэтым зьезд лічыць: а) бязумоўна патрэбным выданьне Літоўскае Мэтрыкі ў друку ў мэтах даступнасьці яе для шырокіх колаў грамады і найбольшага навуковага яе скарыстаньня і б) каб гэта выданьне было дэкрэтавана асобнай пастановай Законадаўчага Органу БССР, як прадмет дзяржаўнае справы надзвычайнае культурнае каштоўнасьці.

### 2. Аб беларускіх архіўных фондах за межамі БССР

Выслухаўшы даклады аб архівах, якія знаходзяцца як у межах Саюзу, так і за яго межамі і зьяўляюцца старымі беларускімі архіўнымі фондамі, зьезд пастанавіў:

1. З вялікім задаваленьнем констатуючы, што Галоўархіў РСФСР, жадаючы дапамагчы разьвіцьцю гістарычнае навукі Беларусі, ідзе на спатканьне жаданьням Ураду БССР аб узвароце архіўных фондаў, якія датычацца Беларусі, як, напрыклад: дакуманты і кнігі старых беларускіх архіваў і ў тым ліку і адарваныя часткі Літоўскае Мэтрыкі, якія раскінуты і знаходзяцца цяпер у был. Архіве Земляробства і Зямлябудаўніцтва, у Ленінградзкай Публічнай Бібліотэцы, у б. Археографічнай Камісіі, у б. Архіве Галоўнага Вайсковага Штабу, у Архіве был. Міністэрства Замежных Спраў у Маскве і ў іншых архіўных установах РСФСР, а таксама і тыя архівы, якія былі эвакуаваны ў час апошняе вайны, як, напр.—архіў Віцебскі і Віленскі і іншыя архіўныя фонды,—зьезд выказвае пажаданьне аб выкананьні звароту гэтых архіваў у як найхутчэйшым часе.

2. Даведаўшыся, што ў архівах Польшчы знаходзіцца значны лік архіўных матар'ялаў XV—XVIII вякоў, якія па сваім афіцыйным пахаджэньні належаць да старых беларускіх архіваў, як, напрыклад: у Варшаве ў б. Галоўным Архіве Варшаўскага Суду і б. Архіве Казённай Палаты—люстрацыі, тарыфы, скарбовыя кнігі, а ў Вільні б. Цэнтральны Архіў даўных актавых кніг б. Архіў генэрал-губарнатара і б. Архіў Віленскага вучэбнага вокругу,—зьезд лічыць неабходным прасіць Урад БССР аб пастанове пытаньня аб іх звароце.

3 З абмену думак і спрэчак на зьезьдзе выявілася, што ў дэлегацыі паміж Польшчаю і СССР, якая разглядае пытаньне аб рэдукцыі архіваў, няма прадстаўніка БССР у той час, як мае свайго прадстаўніка УССР, і выходзячы з патрэбы адстайваньня там інтарэсаў БССР, зьезд просіць Ураду БССР падняць пытаньне аб прызначэньні ў гэтую дэлегацыю прадстаўніка БССР.

### 3. Аб археолёгічных дасьледваньнях

Заслухаўшы даклады аб археолёгічных досьледах, зьезд прышоў да перакананьня, што беларускія старажытныя помнікі не ахоўваюцца на-

лежным способам, самавольна раскопваюцца, разорваюцца і нішчацца, і ў зьвязку з гэтым пастанаўляе:

1. Прасіць Прэзыдыум Інбелкульту і Гіст.-Арх. Камісію апрацаваць спэцыяльны законапроэкт аб старажытных помніках гісторыі і мастацтва Беларусі і правясьці ў самым хуткім часе праз законадаўчыя ўстановы БССР.

2. З абмену думак выясьнілася, што ранейшыя выданьні Літоўскага Статуту зьяўляюцца бібліографічнай рэдкасьцю і не здавальняюць навуковым патрабаваньням. З гэтае прычыны зьезд зьвяртае ўвагу Інбелкульту не неабходнасьць прыняцьця належных крокаў да выданьня Літоўскага Статуту—як навуковага характару, так і для навучальных патрэб.

3. Зьезд выносіць пажаданьне і просьбу Інбелкульту, каб працы зьезду былі надрукованы.

### 4. Аб музэйнай справе

Заслухаўшы інформацыю аб стане Дзяржаўных Музэяў у БССР,—

1. Зьезд лічыць патрэбным падняць перад Урадам пытаньне аб звароце ў Музэі БССР прадметаў архэолёгіі і мастацтва, якія вывезены ў розныя часы за межы Беларусі і знаходзяцца ў Музэях РСФСР, як, напрыклад: а) у Смаленскім Музэі—25 карцін з Горак, б) у Маскве—куфар з срэбрам і шкатулка з дыямэнтамі (брыльлянтамі), эвакуаваныя з Менскага Музэю, в) з Ульянінску—часткі музэйных рэчаў беларускага гісторыка Жыркевіча.

2. Прымаючы пад увагу, што мы перажываем эпоху соцыялістычнага будаўніцтва, калі кожны музэй павінен займаць ня толькі ў галіне навукова-асьветнае працы наагул, але і ў справе ўздойму нашае вытворчасьці і экономічнага разьвіцьця адно з першых месцаў, калі кожны музэй павінен быць і праваднікам практычных ведаў у самыя шырокія колы працоўных,—зьезд выражае пажаданьне, каб пры кожным Музэі БССР быў разгорнуты аддзелы сучаснае прамысловасьці.

### 5. Аб Цэнтрархіве БССР і яго аддзелах

Заслухаўшы інформацыю аб архіўнай справе на Беларусі, зьезд пастанавіў:

Прыняць даклады да ведама і надрукаваць.

### 6. Аб узвароце бібліотэк

Абмяняўшыся думкамі па пытаньні аб бібліотэках, якія вывезены з межаў Беларусі, зьезд пастанаўляе:

1. Прасіць Інбелкульт зьвярнуцца да Ураду па пытаньні аб звароце ў БССР бібліотэк, вывезеных з Беларусі ў розныя часы, як, напрыклад: а) бібліотэка Храбтовіча, якая вывезена з Шчорсаў у Кіеўскі Дзяржаўны Унівэрсытэт у 1922 г., б) бібліотэка б. Полацкае Вуніяцкае Сэмінарыі, якая ў 1900 г. была вывезена з Віцебску ў Кіеўскую Духоўную Акадэмію, в) бібліотэка па беларусазнаўству пры Музэі Каладзеева 1812 г. ў Маскоўскім Гістарычным Музэі.

---

## Барысаўская акруговая конфэрэнцыя па краязнаўству

Барысаўская акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя была склікана 25-26 сьнежня па ініцыятыве праўленьня акруговага т-ва з мэтай выявіць мясцовыя краязнаўчыя сілы, стан працы розных краязнаўчых організацый, намеціць шляхі й мэтоды далейшае працы, як організацыйнае, так і дасьледчае. На конфэрэнцыі прымалі ўдзел—прадстаўнік ЦБК Беларусі, дэлегаты раённых таварыстваў і школьных краязнаўчых гурткоў гораду і акругі, а таксама і прадстаўнікі савецкіх і грамадзкіх організацый.

На конфэрэнцыі заслуханы былі наступныя даклады: 1) стан краязнаўства на Беларусі і чарговыя задачы краязнаўчае працы, 2) справаздача акруговага т-ва краязнаўства, 3) даклады аб стане працы на мясцох, 4) краязнаўства і школа, 5) проблема падняцьця сельскае гаспадаркі на

Беларусі і 6) пытаньні організацыйныя.

З дакладаў аб стане краязнаўства відаць, што ўва ўсіх раёнах ужо ёсьць тыя ці іншыя краязнаўчыя організацыі (7 раённых таварыстваў і 3 гурткі) з агульным лікам каля 305 членаў, пры Барысаўскім пэдтэхнікуме і 9 школах сямігодках організаваны школьныя гурткі, у якіх членаў да 325 чал. У краязнаўчую працу ўцягнута пакуль амаль што толькі адно настаўніцтва; агрономы, лясьнічыя, статыстыкі,—працаўнікі гаспадарчых установ зьяўляюцца рэдкім выключэньнем.

У залежнасьці ад пераважнага характару складу організацый (асьветнікі) і самая праца вядзецца, галоўным чынам, у галіне культурна-гістарычнай (зьбіраньне этнографічных матар'ялаў, зьбіраньне і вывучэньне помнікаў гісторыі і інш.); у галіне-ж прыродазнаўчай праца яшчэ слаба наладжана.

Конфэрэнцыя адзначыла патрэбу ўвязкі краязнаўчае працы з працай савецкіх і партыйных організацый і працай органаў, якія плянуюць гаспадарку, а таксама патрэбу залучэньня ў краязнаўчую працу шырокіх працоўных мас, якія будуюць народную гаспадарку.

У канцы конфэрэнцыі было пераабрана праўленьне акруговага т-ва, у якое ўвашлі: В. Самцэвіч (старшыня), І. Сманцар (сакратар) Рычкоў, С. Нікіфаровіч, Ю. Мазінг, І. Корзун і Плячкоў.

*В. С.*

---

## Год працы Магілеўскага акруговага таварыства краязнаўства

25, 26 і 27 студзеня ў Магілеве адбылася першая акруговая краязнаўчая конфэрэнцыя, на якой былі падлічаны дасягненьні краязнаўчай працы ў Магілеўшчыне за 1925 год.

На конфэрэнцыі былі прадстаўлены ўсе раённыя краязнаўчыя організацыі акругі, сямігодкі, а таксама школьныя і сельсавецкія гурткі краязнаўства, якія пасьпелі ўтварыцца ўва многіх куткох Магілеўскае акругі.

Прадстаўнік ЦБК пры Інбелкульце З. Даўгяла прачытаў даклады аб дзейнасьці Інбелкульту і аб крыніцах гісторыі Магілеўскага краю.

Адначасна конфэрэнцыя мела характар і сьвяткаваньня гадавіны Магілеўскага акруговага таварыства.

Першы організацыйны сход Магілеўскага акр. т-ва, скліканы па ініцыятыве АКРАНА, адбыўся 12 лістапада 1924 г. На гэтым сходзе прысутнічала 15 членаў—закладчыкаў т-ва, якія абралі часовае праўленьне з 3 асоб.

На 31 сьнежня 1924 г.—дзень зацьвярджэньня т-ва—у складзе апошняга было ўжо 29 членаў. Пасьля зацьвярджэньня т-ва Нар. Камісарыятам Унутр. Спраў, на трэцім агульным сходзе былі абраны сталае праўленьне з 7 асоб і рэвізыйная камісія з 3 асоб. Гэты-ж сход ухваліў абкласьці ўсіх членаў т-ва грашовымі ўкладамі—уступнымі па 10 кап. і месячнымі гэтак сама па 10 кап. З гэтых грошай злажыліся сродкі т-ва, якія на сучасны момант складаюцца з 65 рублёў.

У гадавіну свайго існаваньня т-ва налічвала ў сваіх шэрагах ужо 60 членаў, з якіх 3 лічацца ганаровымі і 2 маюць годнасьць членаў-корэспондэнтаў Інбелкульту. Па нацыянальнасьці члены т-ва падзяляюцца так: беларусаў 53, вялікарасійцаў 4, яўрэяў 3; па партыйнасьці: членаў КП(б)Б—11, беспартыйных 49. Вышэйшую асьвету маюць 16 членаў, настаўніцкі інстытут скончылі 9, сярэднюю асьвету—35 (у тым ліку 2 музычную і 3 сельска-гаспадарчую).

Т-ва падзяляецца на тры сэкцыі: прыродазнаўча-географічную, этнографа-экономічную і культурна-гістарычную.

За год адбылося 12 агульных сходаў, 21 пасяджэньне праўленьня і 5 сходаў этнографа-экономічнае сэкцыі.

У залежнасьці ад патрэбы пры т-ве і пры яго сэкцыях утвараліся

часовыя камісіі. Так, пры этнографа-экономічнай сэкцыі працавала камісія па прагляду сучаснага мясцовага слоўнікавага матар'лу; пры культ.-гістар. сэкцыі—камісія па раскопках у Магілеве.

За лета 1925 г. т-ва правяло 6 экскурсій па Магілеву і яго аколіцах (гл. „Наш Край“ № 2-3).

На агульных сходах т-ва было заслухана 11 навуковых дакладаў, на сэкцыйных сходах—5.

Некаторыя з гэтых дакладаў, друкуюцца ў зборніку „Магілеўшчына“.

Улетку ад т-ва выяжджала экспэдыцыя ў Чачэвіцкі раён для агляду старога гарадзішча Нямкі, адкуль прывезены і зданы ў музэй тры каменныя сякеры часоў Нэоліту.

Краязнаўчыя арганізацыі Магілеўшчыны зьвярталі асаблівую ўвагу на зьбіраньне матар'ялаў да слоўніка жывой мовы, на фэнолёгічныя назіраньні, на вывучэньне географічнай номэнклятуры, на зьбіраньне фольклёру.

Матар'яльна т-ва пачынае ўзмацняцца, дзякуючы таму, што знаходзіць падтрыманьне з боку Акр. Вык. Камітэту і ЦБК.

Акр. Вык. Кам. за гэты час выдаў 50 руб. на раскопкі, 10 рублёў для агляду гарадзішча Нямкі і 190 рублёў на скліканьне акруговае конфэрэнцыі.

На акруговай конфэрэнцыі па справаздачы акруговага праўленьня ўхвалена, для узмацненьня працы на наступны час, адразу разьмеркаваць працу паміж асобнымі камісіямі, прыцягнуўшы такім чынам да актыўнага ўдзелу ўсіх членаў т-ва.

Проэктуецца больш ставіць публічных дакладаў ад т-ва краязнаўства і прыцягнуць раённыя т-вы да больш актыўнага корэспондаваньня ў часопісе „Наш Край“ і газэтах „Магілеўскі Селянін“ і „Сав. Беларусь“.

---

## Краязнаўчая праца Аршанскага Рабфаку

Бягучы навуковы год—ёсьць год, параўнаўча з мінулымі гадамі, больш шыбкага разьвіцьця краязнаўчае дзейнасьці сярод рабфакаўцаў. Імкненьне да вывучэньня родных кутоў ахапіла амаль што ўвесь актыў нашага Рабфаку.

Думка аб тым, што краязнаўства павінна быць аднэй з найгалоўнейшых падстаў нашага програмнага навучаньня, стала паступова ажыцьцяўляцца. Некаторыя дысцыпліны курсу прыстасованы ў сваёй програме да абсьледваньня, азнаямленьня з рознымі прыроднымі багацьцямі нашага краю, мясцовай прамысловасьцю, бытам і г. д. Рабфак прызнаў, што толькі краязнаўчы ўхіл у навуцы можа дапамагчы ўзгадаваць культурнага гаспадара і культурнага кваліфікаванага працаўніка.

Краязнаўчая організацыя ў нас утварылася па ініцыятыве Культкамісіі Рабфаку. У склад яе ўваходзяць 72 члены. Усе лектары, пастановаю Праўленьня Мясцкому Рабфаку, ёсьць правадзейныя члены Рабфакаўскага Краязнаўчага Гуртка. Супольная праца студэнцтва і настаўнікаў становіцца на пэўныя рэйкі. З боку студэнцтва ёсьць зразумелая зацікаўленасьць працаю, а настаўніцтва ідзе насустрэчу іх жаданьням, дапамагае практычна навуковымі парадамі. Уся краязнаўчая праца вядзецца ў трох кірунках. Працуюць сэкцыі: 1) гістарычна-архэолёгічная, 2) этнографа-экономічная і 3) прыродазнаўчая.

Прымаючы пад увагу тое, што праца па вывучэньні роднага краю павінна мець вялізнае грамадзкае значэньне—узяты курс на популярызацыю краязнаўчых ідэй сярод шырокіх колаў працоўных мас Аршаншчыны. Чытаюцца лекцыі для работнікаў і служачых розных установаў. Яны каштоўны. Шляхам популярных лекцый мы спадзяемся ўцягнуць у краязнаўчую працу інэртную масу людзей, сярод якіх ёсьць і знаўцы

прыроды, гісторыі, экономікі. На Рабфаку разьмяркованы даклады, выпрацоўваюцца і абгаварваюцца пляны іх, шукаюць матар'ял. Дакладчыкі— настаўнікі і члены таварыства студэнты.

Вызначаны тэмы: помнікі старасьветчыны на Аршанчыне, гісторыя Воршы, гісторыя краязнаўства на Беларусі (гал. моманты) і г. д., усяго 10 тэм. Вядзецца і ўнутры-арганізацыйная праца, галоўным чынам, падгатаваўчая да вакацый і летняе працы.

Шмат надзей. Пачэснае месца ў працы рабфакаўцаў займае зьбіраньне матар'ялаў да слоўніка жывой беларускай мовы.

Інструкцыя Слоўнікавае Камісіі Інбелкульту вывучана, растлумачана на агульным сходзе членаў гуртка. Кожны правадзейны член цьвёрда рашыў прыняць актыўны ўдзел у гэтай працы, выпрацаваў свой плян на 2-х месячны тэрмін і правёў яго праз агульны сход. Многія члены гуртка завялі сабе асаблівыя сшыткі па краязнаўству, дзе ўсё цікаўнае з боку краязнаўчых вед запісваецца. Сшытак заўсёды з краязнаўцам. Нельга ня вітаць гэты разумны падыход да зьбіраньня матар'ялаў па краязнаўству. Ужо мясцовыя словы, невядомыя ў іншых дыялектах беларускае мовы, паступаюць. Па рабфакаўскіх умовах праца па зьбіраньні матар'ялу для ўкладаньня слоўніку— самая цікаўная і выгодная. Студэнты з розных далёкіх куткоў Беларусі,— прадстаўнікі ўсіх мясцовых гаворак, усіх акруг і раёнаў Беларусі. Пэрыод адпачынку, трэба лічыць, будзе належна выкарыстаны для краязнаўчае працы. Інструкцыі належныя дадзены. Ідзе падрыхтоўка да скарыстаньня пэрыоду вакацый на прадмет вывучэньня народных калядзкіх песень, прыказак, апавяданьняў.

Зараз ужо запісаны й перакладзены на ноты некаторыя цікаўныя народныя песьні. Выпрацаваны таксама плян агульнага апісаньня свайго раёну. На кожным пасяджэньні краязнаўцаў сыстэматычна робяцца з мэтодычна-падгатаваўчымі мэтамі даклады для летняе падарожы-экскурсіі па Аршаншчыне, а таксама на іншыя тэмы, як прыклад, прыблізна вось якія: 1) музэй і яго будаўніцтва, 2) лекавыя расьліны Беларусі і іх зьбіраньне, 3) перапіс 1926 г. і праца там краязнаўца, 4) як весьці працу этнографічную, архэолёгічную і культурна-гістарычную.

Зацікавіліся нашыя маладыя краязнаўцы і архіўнаю працаю. Абраны камісіі па вывучэньні мясцовага Аршанскага архіву і каштоўных дакумантаў часоў Літоўска-Беларускае дзяржавы пры рабфакаўскай бібліотэцы. Дзейнасьць камісіі распачалася: вывучаюцца дакуманты старасьветчыны Аршаншчыны як на расійскай, так і на польскай мовах. Вядуць сваю дасьледчую працу нашы члены і па вывучэньні музэю г. Воршы, па вывучэньні мастацкае разьбы ў захаваных да цяперашняга часу будынках, цэрквах. Есьць думка пабудаваць свой музэй. Вялікія надзеі ўскладаем на перапынак у занятках для ажыцьцяўленьня гэтае справы, бо кожны член абяцае даць свой падарунак: ці беларускую тканіну, ці тыповую вопратку, ці модэль сельска-гаспад. прылады. Замацована сьціслая сувязь з Акруговым Краязнаўчым Таварыствам, з Ц. Б. К. пры Інбелкульце, абраны дапішчыкі ў часопіс „Наш Край“.

Пажадана толькі каб Ц. Б. К. часьцей высылала „Наш Край“ (вельмі каштоўны і патрэбны для працы), наагул дапамагала-б маладой краязнаўчай організацыі аўторытэтным словам і літаратурай і, нарэшце, паклапацілася аб пабудаваньні ў нас мэтэоролёгічнае станцыі.

Адчуваецца бадзёры настрой, і гэта дае надзею на посьпех у працы.

**М. Цэхановіч.**

---

## З магілеўскага музэю

У мінулым 1925 годзе Магілеўскі Дзярж. Музэй набыў дзеля папаўненьня сваёй палеонтолёгічнае ко-

лекцыі рэштку маманта—яго зуб. Набыты экзэмпляр мае па верхняй плошчы ў шырыню 3—6 сантым., а ў даўжыню—22 сант. (крыху, каля 3 сант., не хапае, бо нядаўна адбіта).

Гэты фрагмэнт знойдзены ў пачатку ліпня недалёка (1 в.) ад гораду Шклова на левым беразе ракі Дняпра. Сёлета Дняпро перасох у гэтым месцы так, што малыя дзеці пераходзілі яго тут у брод. Ад самае вады гэты зуб ляжаў не далей, як на 1,5 мэтра і быў з ісподу толькі крыху ў пяску. Да абмяленьня Дняпра яго закрывала вада.

Грамадзянін Аляксандар Чэскі (работнік з Шклоўскае фабрыкі „Бараньба"), які знашоў і прывёз у музэй азначаны мамантаў зуб, аб находцы сваёй казаў так:

6 ліпня, пад вечар, ён пераехаў у чаўне на левы бераг Дняпра, каб палавіць рыбу. І вось бачыць, што недалёка ад вады ляжыць нейкі штучны камень. Ён зацікавіўся знаходкай і ўзяў яе ў човен.

Калі прывёз знаходку на фабрыку, дык ніхто з таварышоў-работнікаў ня ведаў, што гэта такое. Пачалі біць малатком, пяклі агнём і ўсе ўпэўнены былі, што гэта камень. І толькі праз тыдзень школьны настаўнік асьвятліў, што гэта зуб маманта, які можна прадаць у музэй.

Набыты фрагмэнт зуба маманта захаваўся добра. Відаць, што гэта зуб ня вельмі старога маманта, бо ў музэі ёсьць зубы вялікшыя за гэты (29×8 сант.).

Уся палеонтолёгічная колекцыя мамантавых касьцей музэю мае ў сабе: а) 3 фрагмэнты біўняў, б) 4 ніжнія сківіцы (чэлюсьці), 5 касьцей галёнкі, 4 цэлыя зубы, 8 кавалкаў зубоў і ўсялякіх іншых касьцей 11 экзэмп.

Усе косьці маманта знойдзены ў размывах берагоў р. Дняпра і Сажа і зьяўляюцца сьведкамі аб тых часох, калі зьявіўся сюды чалавек.

**З. Даўгяла.**

---

## Чарговая сэсія пленуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства РСФСР

10—12 студзеня 1926 г. адбылася чарговая сэсія пашыранага пленуму Цэнтр. Бюро Краязнаўства РСФСР у Маскве. На сэсіі былі прысутнымі прадстаўнікі ад усіх важнейшых краязнаўчых організацый Расіі, а ў якасьці гасьцей—прадстаўнікі Узбэкістану, Украіны і Беларусі.

У прывітальных прамовах падкрэсьлівалася разьвіцьцё краязнаўчае справы ў Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік і значэньне краязнаўчага руху для навукі і для дзяржаўнага будаўніцтва. Прадстаўнікі расійскіх організацый віталі Акадэмію Навук, як установу, якая многа дапамагала разьвіцьцю краязнаўчае справы ў РСФСР. Старшыня пасяджэньня акадэмік Ольдэнбург у вадказнай прамове заклікаў дасьледчыкаў цэнтру да цеснае сувязі з краязнаўчымі організацыямі.

Пасьля прывітальных прамоў сакратар ЦБК РСФСР т. *Д. Сьвяцкі* прачытаў даклад аб працы ЦБК з студзеня 1925 г.

У дакладзе было адзначана, што перагружанасьць членаў ЦБ значна перашкаджала іх працы. З 26 членаў ЦБ 8 зусім ня мелі магчымасьці зьяўляцца на пасяджэньні.

З дакладу выявілася, што вельмі слабой была сувязь ЦБ з студэнцтвам.

Пасяджэньні ЦБК адбываліся штодзень па суботах і былі адчынены для ўсіх. У Ленінградзе адбылося 37 пасяджэньняў, у Маскоўскім аддзяленьні—10. Апрача таго асобныя пасяджэньні мелі дапаможныя організацыі ЦБ, сярод якіх Бібліографічная Камісія мела 16 пасяджэньняў.

ЦБ працавала ў цеснай сувязі з Географа-Экономічным і з Ботанічным Інстытутам. Праведзеная ЦБ рэгістрацыя краязнаўчых організацый паказала, што пасьля другой Усесаюзнай Краязнаўчай конфэрэнцыі ўтварылася 150 новых організацый.

У выданым ЦБ справачніку паказана ўсяго 1.300 краязнаўчых організацый СССР, але пасьля выхаду гэтага справачніку адчынілася 62 новыя організацыі і зачынілася 4.

Пэрыодычна выдаваліся Цэнтральным Бюро зборнік „Краеведение“ і штомесячнік „Известия Центрального Бюро Краеведения“.

Праца ЦБ наагул вядзецца ў Расійскім маштабе, але ЦБ лічыла сваім абавязкам дапамагаць таксама краязнаўчым організацыям саюзных рэспублік. Між іншым, па ўсім Саюзе пад кіраўніцтвам ЦБК РСФСР вядуцца фэнолёгічныя назіраньні, прычым з тэрыторыі Саюзу фэнолёгічныя матар'ялы пасылаюцца ў ЦБК РСФСР ад 620 наглядальнікаў з 520 пунктаў.

Асаблівую ўвагу ЦБ зьвярнула на школьнае краязнаўства. У гэтай галіне працуе асаблівая камісія, якая рыхтуе да друку спэцыяльныя выданьні аб мэтодах вывучэньня края ў сельскіх школах.

ЦБ лічыла патрэбным весьці падлік усіх экспэдыцый, якія маюць быць у межах РСФСР, і папярэджваць аб гэтым краязнаўчыя організацыі ў тых месцах, дзе гэтыя экспэдыцыі будуць працаваць.

Апрача ЦБК РСФСР, слова для справаздач было прадстаўлена прадстаўніком краязнаўчых організацый Саюзных Рэспублік і галоўных мясцовых організацый РСФСР.

Аб краязнаўчай працы на *Далёкім Усходзе* зрабіў даклад т. Харчэўнікаў. З дакладу выявілася, што на Далёкім Усходзе краязнаўчую працу вядзе Забайкальскае Аддзяленьне Географічнага Таварыства, якое падтрымлівае сувязь з мясцовым краявым музэем, саюзам паляўнічых і з настаўніцтвам. Організуецца сэкцыя краязнаўства пры Плянавай Камісіі.

Ува *Ўсходняй Сібіры*, як паведаміў М. К. Азаноўскі, краязнаўчай працай кіруюць Іркуцкі Унівэрсытэт, Музэй, Геогр. Інст., Сэкцыя Навуковых працаўнікоў. Па мястэчках і многіх вёсках залажыліся ў апошнія часы дробныя нізавыя краязнаўчыя організацыі.

У *Заходняй Сібіры*, згодна з справаздачай т. Краўкова, на чале краязнаўчуга руху стаіць Т-ва Вывучэньня Вытворчых сіл Сібіры, якое падзяляецца на сэкцыі—прыродазнаўчую, экономічную і сэкцыю вывучэньня чалавека. Асаблівая ўвага зьвернена на пытаньні індустрыялізацыі Сібіры.

Ад імя краязнаўчых організацый *Узбекістану* гаворыць т. Бродзкі. З яго прамовы выясьняецца, што, ня гледзячы на нацыянальнае разьмежаваньне Туркестану, навуковая праца там яшчэ не разьмяжована, і фактычна Узбэкістан кіруе працай па вывучэньні ўсяго Туркестану. Такую працу вядзе Сярэдняя-Азійскі Унівэрсытэт, Туркестанскае Географічнае Т-ва, Навуковае Т-ва, Камітэт аховы помнікаў. Побач з імі працуюць нацыянальныя Узбэкскае і Таджыкскае Навуковыя Т-вы, Туркмэнскае Т-ва аматараў прыроды ў Палтарацку, Т-ва прыхільнікаў Кіргіскае культуры і г. д.

Мясцовыя ўмовы надаюць асаблівы характар краязнаўчай працы ў Сярэдняй Азіі. Нельга высьвятляць якое-небудзь пытаньне, зьвязанае з мясцовым краем, без асаблівых каштоўных экспэдыцый.

У 1925 г. такія экспэдыцыі былі накіраваны на Памір, дзе ў працягу трох месяцаў вывучаліся, з аднаго боку, рэльеф, глетчэры і іншыя асаблівасьці прыроды, з другога боку—этнографія тамтэйшых насельнікаў.

Далей экспэдыцыі былі накіраваны ў Алайскі горны ланцуг, у Кізыл-Кум, у Заілійскі Алатаў, на Ісык-Куль, шэраг экспэдыцый на азёры Высокага Тянь-Шаня.

Экспонаты, сабраныя ў часе экспэдыцый захоўваюцца ў Сярэдня-Азійскім Музэі, дзе ёсьць спэцыяльныя салі Узбэкістану, Таджыкістану, Пэрсіі, Афганістану.

Добрыя краёвыя музэі знаходзяцца ў Чымкенце, Самаркандзе, Алма-Аце. Намангане.

На жаль, краязнаўчую працу пакуль што вядуць вярхі, і шырокія колы мясцовае людносьці ня прымаюць у ёй удзелу. Аднак, ёсьць надзея, што, абапіраючыся на савецкіх і палітычных мясцовых работнікаў, а таксама на студэнцтва, можна будзе ў хуткім часе ўцягнуць у краязнаўчую працу шырэйшыя колы працоўных мас.

Для ўцягненьня мас у краязнаўчую працу ў Унівэрсытэце чытаецца шэраг спэцыяльных цыкляў.

Прадстаўнік *Казакстану* (Кіргізіі) т. Дос-Магамэдаў дапаўняе даклад т. Бродзкага паведамленьнем аб працы ў Казакстане. Там зьбіраецца багаты матар'ял па фольклёры і этнографіі краю. Пасьля нацыянальнага разьмежаваньня Казакстан застаўся бяз буйнога гарадзкога асяродку, бо Орэнбург адышоў да Расіі, а Ташкент—да Узбэкіі. Гэта ў значнай меры затрымлівае разьвіцьцё краязнаўчага руху і мясцовае навукі.

Пасьля дакладаў т. Крывародчанкі ад Украіны і т. Азбукіна аб краязнаўчай справе на Беларусі, чытаюць справаздачы т. Архангельскі аб краязнаўчай справе ў Ніжнім-Ноўгарадзе, т. Скарнякоў (Волагда), Тахо-Годі (Дагестан), Васкрасенскі (Растоў-Дон) і інш.

Даклады мясцовых організацый і ЦБК РСФСР выклікалі жывы абмен думак аб спосабах пашырэньня краязнаўчае справы, аб увязцы краязнаўчае працы з працай дзяржаўных і політычных організацый і г. д. Падкрэсьлівалася вялікая карысьць для разьвіцьця краязнаўчае справы ад камандыровак членаў ЦБК на месцы.

У рэзолюцыі, прынятай у зьвязку з справаздачамі, вынесена пажаданьне аб большай плянавасьці ў працы ЦБ і аб узмацненьні сувязі з Дзяржаўнымі і партыйнымі організацыямі, а таксама аб большай увязцы працы Ленінградзкага ЦБК з працай Маскоўскага Аддзяленьня ЦБК.

Побач з пытаньнямі аб стане краязнаўчае справы ў РСФСР на сэсіі разглядалася пытаньне аб тым, што такое краязнаўства. З дакладам па гэтым пытаньні выступіў проф. *Пінкевіч*.

Краязнаўства, па думцы дакладчыка, ёсьць мэтод навуковага вывучэньня якойсь невялікай тэрыторыі, вылучанай паводле адміністрацыйных, нацыянальных, політычных або гаспадарчых прымет. Гэтае вывучэньне праводзіцца колектывамі або асобамі на падставе заданьняў якой-небудзь організацыі. Адпаведна гэтаму краязнаўства грунтуецца на працы многіх мясцовых дасьледчыкаў і, такім чынам, уцягвае ў навукова-дасьледчую працу шырокія колы працоўнае людносьці і вучнёўскае моладзі.

Краязнаўства мусіць быць цесна зьвязана з навуковымі, грамадзкімі і гаспадарчымі організацыямі і павінна весьці сваю працу ў згодзе з агульнымі заданьнямі савецкага будаўніцтва.

Даклад т. Пінкевіча выклікаў жывыя спрэчкі, у часе якіх выказваліся думкі, што працаўнікі краязнаўства, як і вучоныя, могуць абыходзіцца бяз мэтавай устаноўкі. Некаторыя опонэнты лічаць краязнаўства ня толькі мэтодам, але асаблівай навукай, так сказаць, мікрогеографіяй.

Прадстаўнік Дагестану, т. Тахо-Годі, выказвае свой погляд на краязнаўства, як на пазнаньне краю незалежна ад вывучэньня вытворчых сіл.

Паколькі краязнаўцы займаюцца вывучэньнем фольклёру, пастолькі азначэньне проф. Пінкевіча не адпавядае жыцьцю.

У заключнай прамове проф. Пінкевіч падкрэсьлівае колектыўнасьць краязнаўчае працы і грамадзкі яе характар. Гэтым, з аднаго боку, і мэтавай устаноўкай, з другога боку, краязнаўства адрозьняецца ад мясцовай навукі. Краязнаўства—ёсьць навукова-грамадзкая праца.

У рэзолюцыі, прынятай пленумам па дакладзе проф. Пінкевіча, у вагульных рысах прыняты галоўныя палажэньні дакладу.

Асаблівая ўвага пашыранага пленуму была зьвернена на пытаньне аб усесаюзным перапісе, які мае адбыцца ў бягучым 1926 г. З тлумачэньнямі наконт перапісу выступалі т. *Радчанка* і прадстаўнік ЦСУ— т. *Красільнікаў*. Перапісы ў Заходняй Эўропе адбываюцца звычайна раз у 10 год, у гады, якія канчаюцца на нуль або на адзінку. Урад ССР спачатку меў на ўвазе праводзіць перапісы таксама праз кожныя 10 год, пачынаючы з 1920 году. Аднак, перапіс 1920 году адбываўся ў асаблівых умовах у час грамадзкае вайны, зараз-жа пасьля вайны імпэрыялістычнай і ня мог правільна адбіць асаблівасьці саюзнае гаспадаркі. З другога боку, перапіс гэты быў няпоўным, бо ўва многіх раёнах у часе перапісу адбывалася грамадзянская вайна. З гэтае прычыны для выяўленьня асаблівасьцяй гаспадаркі нашага Саюзу трэба правесьці новы перапіс, які быў-бы адначасна дэмографічным, сельска-гаспадарчым і гандлёва-прамысловым. Проэктуецца правесьці перапіс сельска-гаспадарчы ўвясну пасьля засеву ярыны, увосені зрабіць перапіс гандлёвых і прамысловых установаў і прыблізна ў сьнежані 1926 падлічыць люднасьць Саюзу (дэмографічны перапіс).

Члены пашыранага пленуму выказваліся наконт перапісу ў тым сэнсе, што краязнаўчыя організацыі вельмі зацікаўлены ў выніках перапісу і ахвотна дапамогуць яго правядзеньню.

У рэзолюцыі, вынесенай па гэтым пытаньні, прапануецца ўсім краязнаўчым організацыям прыняць удзел у працы перапісных камісій, а таксама і ў самым правядзеньні перапісу. Каб матар'ялы перапісу маглі быць найлепей выкарыстаны краязнаўчымі організацыямі, трэба, каб яны прынялі ўдзел у распрацоўцы гэтых матар'ялаў. Вельмі важна, каб вынікі перапісу распрацоўваліся па самых дробных адміністрацыйны-гаспадарчых адзінках, лепш за ўсё, каб апрацаваныя матар'ялы былі дапасаваны да асобных паселішчаў, бо йначай зьмены ў адміністрацыйным падзеле Саюзу могуць зрабіць апрацаваныя матар'ялы ня прыгоднымі для параўнаньня з данымі пазьнейшых перапісаў. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на перапіс адсталых падканцавосных народаў, якія, як прынята думаць, выміраюць. Пытаньне аб выміраньні гэтых народаў зьяўляецца спрэчным і мае надзвычайнае навуковае значэньне.

Апрача справаздачных дакладаў, дакладаў аб сутнасьці краязнаўства і аб усесаюзным перапісе, на пленуме былі зачытаны даклады вучонага сакратара ЦБК РСФСР т. *Сьвяцкага* аб выданьнях ЦБК, т. *Глушкова* аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кваліфікаваных працаўнікоў па краязнаўству, т. *Д. А. Залатарова* аб організацыі штогодняга дня навукі і аб удзеле ЦБК РСФСР у наладжаньні экскурсыйнае справы.

У канцы сэсіі адбыліся выбары членаў корэспондэнтаў ЦБК РСФСР і выбары намесьніка старшыні ЦБК.

Сэсія была закончана заключнай прамовай акадэміка Ольдэнбурга, які падвёў падрuханак праробленай сэсіяй працы і адзначыў ролю сэсіі ў гісторыі краязнаўчага руху РСФСР.

---

## Краязнаўчая справа пад Масквой

Сетка краязнаўчых організацый у Маскоўскай губэрні была наладжана па ініцыятыве Маскоўскага Губэрн. Аддзелу Саюзу Працаўнікоў Асьветы.

У студзені 1923 г. пры Маскоўскім Губсапрацас было ўтворана Бюро Краязнаўства, якое зьвязалася з ўсімі краязнаўчымі організацыямі губэрні, што ўжо існавалі тады, і павяло агітацыю за аб'яднаньне настаўнікаў-краязнаўцаў у павятовыя і валасныя таварыствы. У сучасны момант у губэрні ёсьць 58 дзейных краязнаўчых організацый, у склад якіх уваШлі ня толькі настаўнікі,

але таксама агрономы, перадавыя сяляне і савецкія работнікі.

Кожны месяц Бюро склікае пашыраны пленум, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі мясцовых арганізацый, прычым звычайна на сэсіі пленуму чытаюць даклад якой з мясцовых організацый і справаздачу Прэзыдыуму Губ. Бюро. Апрача таго, у 1924 і 1925 г. г. былі ўсегубэрскія конфэрэнцыі, на якіх былі прачытаны мэтодолёгічныя даклады.

Ува ўсе куткі губэрні Бюро накіроўвае сваіх членаў, вядомых маскоўскіх краязнаўцаў. Штомесяц Бюро атрымлівае ад прэзыдыуму Губсапрацас грашовую дапамогу ў 330 р. на закупку літаратуры для мясцовых організацый, на бягучыя выдаткі іх і інш.

Увясну 1925 г. ў Маскве ўтварылася Губэрскае Маскоўскае Т-ва Краязнаўства, якое ўзялося за навуковую працу па вывучэньні Маскоўскае губэрні, але Бюро Краязнаўства пры Губсапрацас ня спыніла сваю працу, але, з дапамогай Губ. Т-ва, яшчэ шырэй і глыбей яе разгарнула. У 1925 г. краязнаўчымі організацыямі Маскоўскай губ. было праведзена абсьледваньне валасьцей па 5 паветах, вынікі якога будуць друкавацца асобнымі выпускамі пад назвай „Поволостных обзоров Моск. губ“. Апрача таго, у Сергіеўскім, Ленінскім, Васкрасенскім і Дмітраўскім паветах былі абсьледваны саматужныя промыслы сялян. Матар‘ялы, сабраныя пры гэтам абсьледваньні, распрацоўваюцца часткаю на мясцох, часткай у павятовых т-вах краязнаўства. Фэнолёгічныя назіраньні краязнаўчых організацый распрацоўваюцца на „Биостанцыи юных натуралистов, имени П. А. Тимирязева“ і друкуюцца ў так званых „Лісткох“ гэтае станцыі.

Па даручэньні павятовых выканкомаў павятовыя краязнаўчыя організацыі прымалі ўдзел у складаньні „Статистико-экономических обзоров“ паветаў. Па 9 паветах гэтыя „абзоры“ вышлі з друку і зьяўляюцца вельмі каштоўнымі падручнікамі для школ. Між іншым у гэтых кніжках зьмешчаны папаселішчныя даныя аб насельніках, гаспадарках, зямельных ужыткоўнасьцях і г. д.

Сярод валасных організацый тры выдаюць свае рукапісныя краязнаўчыя часопісы, у якіх зьмяшчаецца многа інструкцый і матар‘ялаў апрацованых на месцы. Маскоўскае Губэрнскае Бюро выдае свой пэрыодычны друкаваны орган „Листок Краеведа“; у 1925 годзе выйшла ў сьвет 3 нумары гэтага часопісу.

---

## Выданьне часопісу „Мастацкі Фольклёр“

Фольклёрная падсэкцыя Дзяржаўнае Акадэміі Мастацкіх Навук у Маскве рыхтуецца да выданьня часопісу „Мастацкі Фольклёр“. У першых двох нумарох часопісу будзе высьветлена навуковая праца па вывучэньні народнай творчасьці і народнага мастацтва ў СССР за пэрыод з 1917 да 1925 г.

Рэдакцыя часопісу зьвяртаецца да ўсіх асоб і організацый, якія працуюць над гэтымі пытаньнямі, з просьбай паведаміць аб сваёй працы.

---

# Матар'ялы да гістарыч. бібліографіі Полаччыны[1])

**Алексеев, Евгеній.**

1861—Полоцк и его достопримечательности.

Иллюстрація, СПБ. 1861, т. VII, № 173, 174.

[С рисунком: Вид г. Полоцка с верхнего замка.]

**Беляев, Ив.**

1872—Разсказы из русской исторіи. Исторія Полотска или сев.-зап. Руси, от древнейших времен до Люблинской Уніи.

Москва. В Синод. тип. кн. 4. ч. 1. 8° 456 стр.

**Беляев, И.**

1870—Полоцкая православная церковь до Брестской уніи.

Православное Обозреніе. 1870, № 1, стр. 103—138; № 2, стр. 288—306.

**Бережков, М.**

1877—О торговле русских с Ригою в XIII и XIV в. в.

Журнал Минист. Нар. Просв. 1877 г. кн. 2.

**Боричевскій, И.**

1844—Отрывок из литовской исторіи. Война князей Полоцких в Семигаллии в 1106 г.

С.-Петербургскія Ведомости, 1844 г. № 28, стр. 125-126.

[...

1864 — Выписи из Полоцких магистратских книг актовых. Сообщены А. М. Сазоновым.

Витебск. Губ. Вед. 1864. № 4.

**Гильдебрандт, Герман.**

1874. Немецкая контора в Полоцке.

Рижскій Вестник. 1874. №№ 124. 129. 131. 134. 136. 139. 141. 144. 145.

**Говорскій, К.**

1864 — Археологическія розысканія в окрестностях Полоцка.

Вестник Юго-Западной и Западной Россіи, Кіев, 1864 г., год 2, т. I, кн. 2 (август) отд. IV, стр. 129 – 140.

**Говорскій, К.**

1860 — Археологическія розысканія в окрестностях города Полоцка.

Витеб. Губ. Вед., 1860. № 11 и 12.

**Говорскій, Кс.**

1852—Письмо в Имп. Археологическое Общество, от 18 Іюня 1852 г.

Витебскія Губернскія Ведомости, 1852, № 32.

Об археолог. изысканіях в Полоцке.

[..

1846 — Грамота Сигизмунда III: об отобраніи Могилевскаго Спасскаго монастыря от Полоцкаго епископа Феофана и о поручении его в веденіе граждан со всеми к нему принадлежащими угодьями 1588 г.

Могилевскія Губернскія Ведомости, 1846 г., № 12, стр. 180—182.

**Данилевич, В. Е.** Студ.

1896.—Очерк исторіи Полоцкой земли до конца XIV ст. Соч. удост. золотой медали.

Университетскія Известія. Кіев, 1896. янв. стр. 1 — 38, февр., стр. 39—80, май стр. 81—132, іюнь стр. 133—176, сент. стр. 177—219, ноябрь стр. 219—260+I—XVII.

**Данилевич, В. Е.**

1896 — Очерк исторіи Полоцкой земли до конца XIV столетія. Кіев. 8⁰. стр. 260.

**Данилевич, В. Е.**

1898—Пути сообщенія Полоцкой

---

[1]) З картотэкі Бібліографічнае Камісіі ІБК. Транскрыпцыя вытрымана старая, апрача „Ѣ“ і „Ъ“, якіх няма ў друкарні. Рэд.

земли до конца XIV столетія.

Юрьев. Тип. Маттисена. 8⁰, стр. 20.

[Оттиск из „Сборника Учено-Литературнаго О-ва при Импер. Юрьевском Ун-те вып. I].

**Зедделер, Л. И.** барон,

1856—Полоцк, уездный город Витебской губерніи. Сраженіе под Полоцком в Отечественную войну 1812 г. (5 Авг. 6, 7 и 8 Окт.) Барона Л. И. Зедделера.

Воен. Энц. Лекс. СПБ. 1856, изд. 2, т. X, стр. 376—382.

**Зорин, Н. И.**

1910—Минувшее и настоящее г. Полоцка. (К торжеству перенесенія мощей преп. Ефросиніи из Кіева в Полоцк). Краткій историческій очерк. Полоцк, стр. 36. Ц. 35 к.

**Keussler, Fr.** ✓

1895—Das livische und lettische Dünagebiet und die Fürsten von Polozk, Gercike und Kokenhusen am Ausgang des XII und Zu Beginn des XIII Jahrhunderts.

Riga.

**Коркунов, М.**

1837 — Карта военных действій между русскими и поляками в 1579 г., и тогдашніе планы города Полоцка и окрестных крепостей.

С.-Петербург, тип. Ак. Наук 8⁰. 15 стр.+7 планов.

[Из „журн. Мин. Нар. Просв.“ 1837, № 8].

**Красавицкій, П. М.**

1911—Памятники церковной старины Полоцко-Витебскаго края и их охраненіе. (Доклад в Витебской учен. архивной комиссіи). Отд. отт. из кн. I Полоцко-Витебской Старины.

Витебск. 8⁰, стр. 64.

**Леонардов, Д. С.**

1912—Полоцкій князь Всеслав и его время.

Полоцко-Витебская Старина. 1912, в II. стр. 121—216.

[Указание на легенды, песни, касающіеся Всеслава].

**Лучицкій, И. В.**

1892—К исторіи торговых сношеній Ганзы с северо-зап. и южной Русью.

Чтенія в Общ. Нестора летописца VI, 1892, стр. 82.

[О торговых сношениях ряда белорусских городов в XIII—XV в. в].

**Маркевич, Н.**

1836—Андрей Ольгердович, князь Полоцкій. Большой историч. словарь Н. Маркевича. Москва. 8⁰, стр. 16.

[...

1864—Матеріалы для исторіи. Выписка из Полоцких магистратских книг XVII в. Сообщено А. Созоновым.

Витебск. Губ. Вед. 1864. № 6, 10.

[...

1863—Матеріалы для исторіи г. Полоцка в эпоху зависимости его от Польши.

Две жалованныя грамоты: г. Витебску 1559 г. и Стефана Баторія г. Полоцку 1580 г.

Вестник Юго-Зап. и Зап. Россіи 1863 № 12, стр. 53—64.

[...

1864—Матеріалы для исторіи г. Полоцка. 1—3 (1633, 1643 и 1638 г.). (Сообщены А. М. Сазоновым в Витебск. Губ. Вед.)

Вестник Юго-Западной и Западной Россіи, Кіев, 1864 г., год 2, т. II, кн. 6 (декабрь), отд. I, стр. 17—22.

[...

1863—Матеріалы для исторіи г. Витебска и Полоцка в эпоху зависимости их от Польши. I. Жалованная подтвердительная грамота короля Сигизмунда 1-го г. Витебску, на права и вольности, дарованныя этому городу прежними королями, 1509 г., февраля 18.

2. Жалованная подтвердительная грамота короля Стефана Баторія городу Полотску на разныя права и вольности. 1580 г. мая 7.

Вестник Юго-Западной и Западной Россіи, Кіев, 1863 г., год I, т. IV, кн. XII (іюнь), отд. I, стр. 53—64.

[...

1864—Матеріалы для исторіи. Инвентарь имущества архіепископіи По-

лоцкой, сост. 1618 г. Янв. 10 дня. Извлечено А. Сементовским.

Витебскія Губ. Вед. 1864. № 9.

**Mienicki, R.**

1913—Z przeszłości województwa Połockiego.

Ziemia, 1913, № 11—17.

**Mienicki, Wincenty.**

1894—Krótka wiadomość o najdawniejszej rewizyi województwa Połockiego.

Odbitek z Wiadomości numizm. archeol. Kraków, nakład Towarzystwa numizm., druk W. Anczyca i Sp. 8⁰, str. 7.

**Морель, Ал.**

1908—Исторія города Полотска и возникновеніе полотскаго кадетскаго корпуса. Вильна.

[...

1860—О введеніи римскаго католицизма в Белоруссіи. (Отрывок из неизданной исторіи Полоцкой епархіи).

Витеб. Губ. Вед. 1860, № 15—18.

**Оглоблин, Н. Н.**

1880—Об'яснительная записка к карте Полоцкаго повета во 2-ой полов. XVI века.

Сборник Археолог. Института. Кн. III и IV. 1880 г.

[...

1846—О древних камнях с надписями, находящихся в р. Двине (от XIII в.) близь Полотска и Дисны.

Витебскія Губернскія Ведомости. 1846, № 14, стр. 1—4.

[...

1876—О древних замках и окопах в Полоцкой губерніи.

Полоцкія Губ. Вед. 1876, № 49, 51.

**Павлинов, А. М.**

1895—Древности Витебска и Полоцка.

Труды IX Археолог. С'езда 1893 г. I, 1—26 стр.

**Plater, A.**

1842-43. — O Starożytnych kamieniach z napisami, znajdujących się w rzece Dźwinie (od XIII weku) koło Połocka i Dźisny.

Rubon 1842, II, str. 37—48.

Przyjacel Ludu, 1843, № 39.

**Richardot Dezyderyusz, S. J.**

1818—Wiadomość o Połocku.

Miesięcznik Połocki, 1818 r. Tom. I.

[...

1861.—Полоцк и его примечательности.

Иллюстрація. 1861. № 173.

[...

1911 — Полоцко-Витебская Старина. Изданіе Витебской ученой архивной Комиссіи. Витебск, тип. Неймана, 8⁰.

Кн. I ч. I 64+8+12+64 стр. + 4 таб. рис. ч. II. 10+10+8+12+12+6+6++8 стр.

[...

Полоцкая ревизія 1552 года. К изданію приготовил И. И. Лаппо. [Печатано под наблюденіем И. Лаппо], 8⁰, XXII+236+(2) стр.

[...

1864—Привиллегіи королей польских на местечко Михайлово, оно же и Сиротино, находящееся в Полотском у. Витебской губ. Сообщено К. Садовским.

Витебскія Губ. Вед. 1864. № 42.

[...

1864 — Постановленіе старост и всех Полоцких сапожных дел мастеров о продаже обуви. (1640). Матеріалы для исторіи Витебской губерніи.

Витебскія Губернскія Ведомости. 1864. № 17.

[...

1905 — Россія. Полное географическое описаніе нашего отечества под редакціей В. П. Семенова.

Том IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссія.

СПБ. 8⁰. 619 стр. с рис. I (Аб г. Полацку на стар. 498—505).

**Савельев-Ростиславич, Н. В.**

1856—Полоцкое княжество и Полоцк. — Осада и взятіе Полоцка Іоанном Грозным.

Воен. Энцик. Лекс. изд. 2-е, т. X, стр. 374—376.

**Сапунов, А.**

1888—Витебская Старина. Том V.

Матеріалы для исторіи Полоцкой епархіи. Часть 1, с 47 отдельными приложеніями. Составил и издал А. Сапунов.

Витебск. 8°. 4+CLXIV+646+XX стр.+47 таблиц.

**А. С.**

1901—Полоцк и Витебск в 20-х годах прошлаго века.

Витебскія Губернскія Ведомости. 1901, №№ 113, 114.

**Сапунов, А.**

1885—Витебская Старина. Том IV, часть 1.

Полоцкое воеводство под властью царя Іоанна Васильевича Грознаго (1563—1586).

Часть 2. Полоцкое и Витебское воеводства под властью царя Алексея Михайловича (1654—1667). Витебск. 8°, стр. IV+76+274+394+ +XII+12 таблиц+4 плана.

**Сапунов, А.**

s. a.—Рисунки крепостей, построенных по повеленію царя Ивана Васильевича Грознаго после завоеванія Полоцка, в 1563 году. s. e. 8°. 16 стр. +6 планов.

**С. А. [Сапунов].**

1901—Полоцк, Витебск и Минск в 20-х годах прошлаго века.

Витебск, губ. тип. 16°, 28 стр.

(Отдельные оттиски из №№ 113, 114 и 128 „Витебских Губернских Ведомостей").

**Сапунов, А.**

1898—Архив Полоцкой Духовной Консисторіи. (Оттиск из 1-го тома Трудов Археографической Комиссіи Импер. Москов. Археологическаго Об-ва).

Москва, печ. Снегиревой. 8°, 168 стр.

**Сапунов, А.**

1893—Река Западная Двина. Историко-географическій очерк, с картами, планами и рисунками. Составил и издал А. Сапунов.

Витебск. 8°. 512+LXIX стр. с рис. (Аб г. Полацку на стар. 406—432).

**Сапунов, А.**

s. a.—Сказанія исландских или скандинавских саг о Полоцке, князьях полоцких и р. Западной Двине.

s. e. 8°. 34 стр.

**SAS, J.**

1911—W sprawie jezuitów na Białej Rusi. Z okaryi książki M. Loreta „Kościoł katolicki a Katarzyna II".

Przegląd Powszechny. 1911. T. CX. стр. 187—208 и 369—381.

**Сементовскій, А.**

1877—Полотск. Историко-статистическій очерк А. Сементовскаго.

Памятная книжка Витебской губерніи на 1878 год. 1877, стр. 12—50.

**Сементовскій, А.**

1867—Памятники старины Витебской губерніи, с рисунками в тексте и картою.

СПБ. Тип. К. Вульфа. 8°. II + 74 стр. Ц. 1 р. 50 к.

**Сементовскій, А.**

1864 — Историко-статистическія сведенія об уездных городах Витебской губерніи.

Памятная книжка Витебской губ. на 1864 г., стр. 117—179.

**Сементовскій, А.**

1868 — Статистическія данныя о последствиях войны 1812 г. для г. Полотска.

Витебскія Губ. Вед. 1868. № 86.

✓ **Stebelski.**

1782 — Chronologia, albo porządne według lat zebranie znaczniejszych w Król. Pols. i W. X. Lit(ewskim) a mianowicie na Białej Rusi w Połocku dziejów i rewolucyi, zwłascza tych, które się tyczą tak starodawnego monastera s. Spasa za Połockiem . . . . . .
...niegdyś przez ss. Panny M. Eufrozynę i Parascewię rządzone. 2 tomy.

Wilno. 8°.

**Тарасенко-Атрешков, Любим.**

1847—Поморье бывшего удельнаго княжества Полоцкаго, сопредельнаго ему Псковскаго и Великаго Новгорода.

Финскій Вестник, 1847 г. Т. 24, № 12, отд. 2., стр. 1—18.

[...

1856 — Тетрадь; в ней писаны рубежи городу Полотцу и Полотцкому повету с Виленским поветом и с Витебским и с иными порубежными городы, и рубежи городу Озерищу с Витебским и с Сурожом и с иными порубежными месты. 7071 г. (1653 г.). Достав. П. С. Савельев.

Врем. Моск. Общ. Ист. кн. 24, стр. 1—48.

**Тихомиров, Ив.**

1877—Торговыя сношенія Полоцка с Ливоніей в XIV веке.

1877. Журнал Министерства Народнаго Просвещения. Част. 194 декабрь, отд. II, стр. 232—239.

[...

1864—Три письма королей польских и одно пана воеводы Полотскаго, изображающія меры, принимавшіяся польским правительством к подавленію православной веры в пределах бывшаго Полотскаго и Витебскаго воеводств. (1643). Извлечено из дел А. Сазоновым.

Витебскія Губ. Вед. 1864. № 35.

**Szujski, Jósef.**

1880—Rewizya województwa Połockiego z roku 1552.

Kraków. Nakł. Akademii umiej. Druk. W. Z. Anczyca i Sp. 8°, Str. 412. (Archiwum Komisyi historycznej, t. II).

**Эвальд, Э.**

1854—Полоцкая Старина.

СПБургскія Ведомости, 1854, № 223, стр. 1111-1112.

**Ìanowski, Ludwik.**

1905—Uniwersytet w Połocku.

Kurjer litewski, 1905, N 73-74.

---



Выдавец—
Інстытут Беларускае Культуры.

Часова выконвае абавязкі рэдактара
М. Азбукін.

# ЗЬМЕСТ.



---

Застаўкі і канцоўкі выкананы мастаком А. Тычынам паводле ўзораў на скарынінскіх выданьнях.

